

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**ПЯТНІЦА, 30 снежня 1988 г. № 52 (3462) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**


## 70 год БССР і КПБ

## Жыцьме Беларусь!

Ніна МАЕЎСКАЯ

З МАЛКУ люблю высокія, магутныя дрэвы і нават чорных, мудрых груганоў, якія, седзячы на галінах, задумліва аглядаюць акругу. Свет пад высокімі дрэвамі здаецца абжытым і ўстойлівым, трывалым і вечным. І ўзнікае трымклівае пачуццё, што і гэтыя дрэвы, і птушкі ведаюць і помняць тое, што ўжо за даляглядам часу, невядомае, але важнае для цябе. Яны маўклівыя сведкі вялікіх і важных падзей.

Помню поўны нястрыманага болю голас майго дзеда: «Зводзіцца род». Ведала, гэта не ад таго, што магілы сыноў яго, калі яны ёсць недзе, далёка ад дому, а ў адзінага жывога — адны «дзевачкі». У гэтых словах было нешта большае...

Ужо не помню, калі, у якіх сітуацыях сказана, але, як удары званоў, увайшлі і залеглі ў глыбіні падсвядомасці і зараз паўстаюць у тым належным ім святле фразы: «Мы — народ. Наш род. Наша зямля. Нашы карані. Тутэйшыя людзі...».

Але, так бывае ў жыцці, — толькі ты ўсвядоміў сябе, як істоту разумную, даведаўся пра сваё імя, прозвішча, даведаўся, як завецца тая зямля, тая мясціна, асветленая сонцам, дзе твой дом, як новая трывога, новы страх... На плошчы, толькі прабегчы тры двары і завярнуць за вугал — стаіць чалавек у салдацкай гімнасцёрцы са скрыпкаю, гукі яе пранізваюць сэрца нязнанай да гэтага асалодай, але страшна падысці бліжэй. Бо гэты чалавек не ведае, хто ён і адкуль. Вось так ходзіць ад мястэчка да мястэчка са скрыпкаю. І страшэнная роспач, смяротэльны страх скоўваюць мае грудзі: няўжо гэта магчыма? Няўжо гэта можа здарыцца і са мною? Забудуся на імя сваё, род свой, гэты дом і гэтую зямлю?.. І страшуся, і насуперак страху пераконваю сябе, што гэта ніколі-ніколі не здарыцца, нават тады, калі мяне зявзе ў невядомасць тая страшная чорная машына, якой усе баяцца і шчыльна запінаюць вокны, каб не прасочвалася святло. Я сама не раз чула, як яна доўга натужна гула, праязджаючы па нашай ціхай вуліцы, бачыла, які затоены жах і чаканне жылі ва ўсіх у вачах.

Гэта клопаты і страхі майго дзяцінства, гэта свет, разбураны, хліпкі, які я, як і ўсё маё пакаленне, спасцігала сваім, яшчэ дзіцячым розумам.

Але даруйце, сёння гаворка не пра мяне. Ёсць славутая юбілярка, і трэба гаварыць пра яе. Пра маці нашу — Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку. Рэспубліка наша маладая, але моцнага, цярплівага і знакамітага, хоць занядбанага, раскіданага роду. Нялёгкі шлях быў у нашай маладой рэспублікі, але толькі нядаўна мы пачалі па-сапраўднаму пра гэта гаварыць і цягнуцца да яе гісторыі.

Памятаю свае ўступныя экзамены ва універсітэт. Радасная, усхваляваная, амаль гатовая студэнтка (адны «выдатна» ў экзаменацыйным лістку), прыйшла на экзамен па гісторыі. На калідоры, ля дзвярэй аўдыторыі, дзе ідзе экзамен, некалькі разгубленых, дрыжачых абітурыентаў. Астатнія разбегліся, заходзіць баяцца: прымае грозны, вусаты чалавек па прозвішчу Абэцэдарскі. Зайшла. Выцягнула білет, села, рыхтуюся і слухаю, як «плавае» мая папярэдніца. І Абэцэдарскі ўжо не здаецца мне гэткім страшным. Ён нават прыходзіць ёй на дапамогу, пытаецца: «Якім гатункам лён здала? Высокім? Ну, абы лён быў добры, а гісторыю — вывучыш». Мяне вельмі ўразілі тады яго словы, здалося, гэта не проста фраза, сказаная, каб падбадзёрыць чалавека, а самі адносіны да гісторыі. Не таму, што побач з маімі «выдатна» з'явілася «пасрэдна», здалося, нават, што нечым не спадабалася маё прозвішча. Ён перачытаў яго двойчы, папытаў, з якіх мясцін родам, пачуўшы, нешта прабурчэў.

Потым ужо, калі я прыйшла на аддзяленне журналістыкі філфака БДУ, выкладчык курса гісторыі журналістыкі сказаў мне: «Ваша прозвішча мне вельмі знаёмае. Лагун быў членам першага Цэнтральнага Бюро КП(б)Б. Вывучайце гісторыю», — параіў гэты наіўны чалавек. Але па чым яе было вывучаць? У школьных падручніках, у дапаможніках для студэнтаў, напісаных і адрэдагаваных Л. С. Абэцэдарскім, апроч Мяснікова і Кнорына, ніякіх прозвішчаў больш не было, нібы рэспубліка стваралася сама сабою, без людзей.

Толькі цяпер мы пачынаем гаварыць, як няпроста нараджалася наша Беларуская Савецкая Рэспубліка, як збірала свае сілы «гарацешная, пакутная Беларусь, Беларусь рабочых і бедных сялян, спрыша доўгія вякі свайго жыцця служыўшая сродкам для абагачэння польскага вяльможнага панства — памешчыкаў, зломысных грашаўнікоў-купцоў і ўсялякіх багацеяў-крывасмокаў, а потым захопленая пад уціск расейскага крывавага самадзяржаўя, з яго генераламі і самаўладным чыноўніцтвам, абдураная ды абманутая з касцёльных амбоняў ксяндзамі і з царкоўных алтароў папамі, скутая з ног да галавы ланцугамі няволі, цярпеўшая здзекі і глум і пераўжыўшая цяжкае ярмо нямецкага прыгону». Так гаворыцца ў «Маніфэсце часовага рэвалюцыйнага работніча-сялянскага савецкага правіцельства Беларусі».

25 кастрычніка 1917 года ў Мінску ўлада перайшла ў рукі Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Ваенна-рэвалюцыйныя камітэты пры Саветах, якія стварыліся ў ходзе барацьбы, неадкладна пачалі ажыццяўленне першых мерапрыемстваў рабоча-сялянскай улады. 26 лістапада 1917 года для практычнага ажыццяўлення пераходу ўлады да Саветаў былі створаны Абласны выканаўчы камітэт Саветаў (Аблвыканкомзах) і Савет Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту. 31 студзеня 1918 года дэкрэтам СНК РСФСР, падпісаным У. І. Леніным, быў створаны Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацком).

Па сутнасці, гэта было пачаткам стварэння беларускай

(Працяг на стар. 2—3).




## ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!

**Вы атрымалі апошні ў адыходзячым, 1988 годзе, нумар «ЛіМа». У ім вы знойдзеце публікацыі да 70-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі. Яны — пра слаўных сыноў народа І. Лагуна, Д. Мальца, А. Баліцкага, В. Купрэвіча. Пярэдадзень утварэння рэспублікі — раздзел з рамана Г. Далідовіча.**

**На старонках нумара вы прачытаеце матэрыялы нашай перадавагодняй анкеты, на пытанні якой адказваюць С. Алексіевіч, С. Грахоўскі, В. Грыгалюнас, Г. Давыдзька, М. Данцыг, С. Законнікаў, В. Каваленка, А. Казловіч, У. Калеснік, І. Лучанок, В. Маслюк, А. Марачкін, А. Пісьмянкоў, М. Фінберг.**

**В. Быкаў расказвае пра сваю паездку ў ЗША, пра свае ўражанні ад выступлення на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН М. С. Гарбачова.**

**Н. Гілевіч адказвае на пытанні чытачоў рэспубліканскай бібліятэкі імя У. І. Леніна.**

**Старонкі інтэрнацыянальных узаемасувязей: коласаўскі музей у Каўнасе, беларускае апавяданне па-нямецку, украінскія эцюды нашага празаіка.**

**У «паэтычным сшытку» нумара — вершы М. Баравік, Н. Гальпяровіча, Л. Забалоцкай, В. Тараса, М. Трафімчука.**

**«Пра тое, чым жывуць людзі...». Перадавагоднія гутаркі з лімаўскім чытачом.**

**З НОВЫМ ГОДАМ, СЯБРЫ! ДА НОВЫХ СУСТРЭЧ НА СТАРОНКАХ ШТОТЫДНЁВІКА.**

**У Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна адбылася сустрэча чытачоў з першым сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР Нілам ГІЛЕВІЧАМ. Размова ішла аб ролі і месцы пісьменніка ў перабудове, аб значэнні літаратуры ў грамадскім жыцці. Некаторыя фрагменты гэтай размовы, якая, дарэчы, доўжылася больш за дзве гадзіны, прапануем вашай увазе ў запісе нашага карэспандэнта.**

Ніл ГІЛЕВІЧ

# ВЕРУ Ў РАЗУМНУЮ САДРУЖНАСЦЬ...

— Сёння праводзіць сустрэчы з чытачамі,— сказаў у сваім уступным слове Н. Гілевіч,— надзвычай цікава, але і няпроста. Усё наўкол нас так імкліва мяняецца, такая ідзе рашучая і крутая пераацэнка каштоўнасцей, што часам мы здзіўляемся самім сабе: наколькі ж мы выраслі за апошнія гады ў сацыяльным і духоўным плане, наколькі вастрэй і смялей сталі гаварыць пра тое, што нас хвалюе, непакоіць, трывожыць.

Натуральна, што гэты дабратворны працэс наклаў свой адбітак і на характар нашых з вамі сустрэч. Цяпер ужо не пытаюцца пра біяграфію пісьменніка, яго творчы шлях, гісторыю напісання таго альбо іншага твора. Пытаюцца пра рэчы больш істотныя. І гэта лагічна. Мы хочам зразумець саміх сябе, асэнсаваць навакольную рэчаіснасць, усвядоміць ролю літаратуры ў грамадскім жыцці.

Трохі пра сённяшнюю літаратурную сітуацыю. Нярэдка пытаюцца: чаму так мала твораў пра перабудову? Што можна сказаць наконт гэтага? Канечне ж, мы таксама хацелі б, каб ужо сёння вы знаходзілі раманы, аповесці, паэмы, п'есы, якія неслі б у сабе выразную адзнаку часу, давалі адказы на пытанні, што вас хвалююць. Але для таго, каб напісаць добры твор, патрэбен час.

Ісціна як быццам бясспрэчная. І ўсё ж... Ці не празмерна мы апраўдваемся, ці не зацягнулася творчая паўза? Пасля красавіцкага (1985 г.) Пленума ЦК КПСС прайшло ўжо амаль чатыры гады. Хіба гэтага мала для пісьменніка, які не самаізаляваўся ад грамадскага жыцця, які мае вочы, вушы, гарачае сэрца? Можа ён напісаць такі твор, дзе б ужо асэнсоўваліся працэсы нашага сённяшняга дня? Думаю, што можа.

Кажуць, што цяпер усе пісьменнікі пайшлі ў публіцыстыку. Што праўда то праўда. Многія пайшлі. Але гэтаму не толькі засмучацца трэба, а і радавацца. Бо пакуль мы ў публіцыстыцы не ўсвядомім наш час, не спасцігнем тыя імклівыя перамены, што адбываюцца ў навакольным жыцці, мы па-сапраўднаму не пранікнем у сутнасць сацыяльных з'яў, будзем слізгаць па паверхні, і ў рэшце рэшт як належыць не выканаем свайго пісьменніцкага абавязку.

Што ж ўяўляе сабой наша сённяшняя рэчаіснасць? Найпершая і самая радасная перамена — людзі загаварылі. Канечне, хто як можа. І хто пра што. Але гнятлівае маўчанне скончылася. Народ абудзіўся. Грамадска-палітычная актыўнасць нашых людзей як ніколі высокая.

Выявілася, аднак, розная ступень гатоўнасці да гэтага абуджэння, да гэтай актыўнасці. Адны горача вітаюць, што людзі адкрыта і чэсна загаварылі. Другія ж, я б сказаў, займаюць пазіцыю чакання: паглядзім, маўляў, як далей пойдуць справы. Яшчэ невядома, да чаго гэтае абуджэнне прывядзе. Трэція — ёсць і яны — не толькі не радуюцца, але і самі баяцца, і другіх стараюцца напалохаць. «Кабыничеговышлисты» —трапна назваў паэт такіх людзей.

Я не схільны спрошчваць сітуацыю. Яна сапраўды ў многіх сваіх праявах нечаканая, нязвыклая для ўсіх нас, і перш за ўсё для ідэалагічных работнікаў. А пісьменнікі ў пэўным сэнсе таксама з'яўляюцца ідэалагічнымі работнікамі. Таму неадназначнасць успрымання сённяшняй грамадскай сітуацыі характэрна і для пісьменніцкага асяроддзя.

Трэба, аднак, разабрацца: чаго мы хочам? Прымаем мы партыйныя дакументы толькі на словах, а на практыцы схіляемся да таго, каб усё заставалася па-старому, ці сапраўды шчыра жадаем рашучых перамен і гатовы рабіць усё, каб максімальна спрыяць рэвалюцыйнаму абнаўленню? Ад адказу на гэтае пытанне залежыць, па які бок барыкады, калі гаварыць вобразна, вызначыць кожны з нас сваё месца ў барацьбе за перабудову.

Магу з пэўнасцю сказаць, што большасць пісьменнікаў занялі ў гэтым руху актыўную пазіцыю, і сваім натхнёным, палымяным словам імкнуцца садзейнічаць пазітыўным працэсам. Ёсць свае набыткі і ў празаікаў, і ў паэтаў, і ў драматургаў. Але ў авангардзе перабудовы ідуць нашы публіцысты, а дакладней кажучы, наша публіцыстыка, бо, як я ўжо адзначаў, сёння на гэтай ніве працуюць прадстаўнікі ўсіх літаратурных цэхаў.

Калі ж гаварыць пра тыя праблемы, якімі жыве публіцыстыка, то іх, найбольш важных, найбольш актуальных, бадай, тры. Першая — гэта далейшая дэмакратызацыя нашага грамадства і пашырэнне публічнасці. Літаратура тут можа зрабіць вельмі многае. Прыгадайце шматлікія публікацыі ў часопісах, газетах. Хіба не змянілі яны нашага ўяўлення аб некаторых прынцыповых з'явах палітычнага і сацыяльна-эканамічнага жыцця? Хіба не рыхтавалі яны той выключнай важнасці крок, зроблены намі на апошняй сесіі Вярхоўнага Савета СССР, калі былі прыняты істотныя змяненні і дапаўненні да Асноўнага закону нашай краіны?

Другая праблема, якая сёння ў цэнтры ўвагі публіцыстыкі, гэта праблема экалогіі. Па сваёй значнасці і актуальнасці я, можа, нават паставіў бы яе на першае месца. Бо калі мы не вырашым гэтай праблемы — усё астатняе проста траціць усялякі сэнс. Сённяшняе парушэнне гармоніі паміж прыродай і чалавекам пісьменнікі адчуваюць надзвычай востра і рэагуюць на гэта бурна, эмацыянальна. Таму ў нас, у Саюзе пісьменнікаў, што ні сход — то цэлая дыскусія. Людзей хвалююць і вынікі чарнобыльскай аварыі, і пытанні меліярацыі Палесся, і лёс Салігоршчыны. і многае, многае іншае.

Наламалі мы дроў нямала, але, можа, яшчэ не зусім спазніліся, можа, яшчэ нешта можна павярнуць, паправіць? Інакш мы рызыкуем застацца без вады і чыстага паветра. На жаль, я не магу сказаць, што ўжо ўвесь наш народ зразумеў гэту вялізную праблему. Дык ці мае права паэт, празаік, драматург не думаць, не пісаць пра гэта? Таму і вымушаны яны нярэдка адкладваць убок свае мастацкія творы і брацца за публіцыстыку, уключацца ў барацьбу за выратаванне жыцця на зямлі.

Кожны, хто мае сумленне, павінен сёння біць у званы, крычаць, проста лямантаваць. Але нягледзячы на гэты крык, інерцыя заганных метадаў нашага гаспадарання настолькі вялікая, што яе цяжка спыніць. Можна сто тысяч чалавек вывесці на плошчу, мітынгаваць цэлы дзень, а які-небудзь кабінетны чыноўнік здзекліва пасмяецца з усяго гэтага і падпіша дакумент, які заўтра прычыніць нашай прыродзе непапраўную шкоду. Рэальнай управы на сённяшняга бюракрата мы пакуль што не маем. Вось чаму асаблівую надзею ўскладваем мы сёння на ўдасканаленне нашай палітычнай сістэмы, на вяртанне да ленінскіх прынцыпаў, форм і метадаў кіравання і гаспадарання.

Не ўсё, аднак, на гэтым шляху пашырэння дэмакратызацыі, абнаўлення ўсіх сфер нашага жыцця, бясхмарна. Ёсць глухое, даволі адчувальнае супраціўленне чыноўніцтва, але ёсць пэўныя эмацыянальныя перахлёсты, залішняя катэгарычнасць, гэтак званая ультрарэвалюцыйнасць і з боку нашай творчай інтэлігенцыі. Асабліва гэта праяўляецца ў дачыненні да нашай трэцяй, самай балючай, праблемы — праблемы роднай мовы, гісторыі, культуры ў цэлым. Складанасць, напружанасць сітуацыі, якая тут склалася, вымагаюць асаблівай асцярожнасці, асаблівай прадуманасці дзеянняў. Між тым апошнім часам у сродках масавай інфармацыі з'явіўся шэраг артыкулаў, у якіх зроблены грубыя, жорсткія абвінавачванні ў адрас інтэлігенцыі, перш за ўсё пісьменнікаў, абвінавачванні агульныя, без разбору—не тое гавораць, не туды вядуць.

Дзеля чаго гэта? Навошта? Няўжо так цяжка зразумець, што ў галовах пісьменнікаў не нейкія хімеры, не блазенскія спакусы, а ўсё-такі яны кіруюцца вельмі і вельмі сур'ёзнымі матывамі. А калі мы не ўмеем яшчэ як след карыстацца дэмакратыяй — не трэба баяцца. Трэба толькі выразна бачыць, што ў гэтым вялікім руху здаровае, істотнае, якое абяцае добрыя вынікі, а што—выпадковае, лішняе, непрымальнае.

**Пакуль Н. Гілевіч гаварыў уступнае слова, у прэзідыум прыйшло шмат запісак з самымі рознымі пытаннямі.**

**З ЗАПІСКІ:**

**«Паважаны Ніл Сямёнавіч! Вы гаварылі аб праблеме беларускай мовы як самай балючай. Але хіба можна вырашыць гэту праблему без павышэння агульнага ўзроўню культуры народа? І яшчэ. У працэсах адраджэння роднай мовы трэба быць вельмі тактоўнымі. Я, напрыклад, супраць таго, каб уводзіць беларускую мову ў вышэйшых навучальных установах, бо многія спецыялісты, якія прыехалі да нас з іншых рэспублік, апынуцца ў цяжкім становішчы. Ваша думка наконт гэтага?»**

**Н. Гілевіч:**

— Па першаму пытанню. Канечне ж, паміж праблемай мовы і праблемай культуры самая цесная сувязь. Калі чалавеку не хапае элементарнай культуры, простага разумення, што трэба паважаць сваю мову, сваю літаратуру, сваю гісторыю, то карысці ад такога чалавека будзе небагата. Усе нашы сённяшнія беды, можа, якраз і ідуць ад таго, што нам не хапае культуры. Культуры працы. Культуры ўзаемаадносін. Маральнай культуры.

Справа, вядома, не ў вышэйшай адукацыі, бо і непісьменны чалавек можа быць вельмі культурным. Такімі, дарэчы, і былі нашы продкі. Іх адносіны да зямлі, да іншых людзей, іх мараль — гэта для нас сёння сапраўдны ўзор. Культурны чалавек сам адчуе неабходнасць вывучаць родную мову, альбо мову таго народа, сярод якога ён жыве не адзін ужо год.

Цяпер наконт другога пытання. Цалкам згодзен з тым, што вяртанне роднай мовы, выхаванне да яе павагі, любові — пытанне няпростае. Тут патрэбны і асцярожнасць, і разуменне сітуацыі. Адным махам яго не рашыць. Нас (а я маю на ўвазе не толькі пісьменнікаў, а ўсю свядомую інтэлігенцыю) чакае вялікая работа не на адзін год, і не на два. Пэўныя захады ў гэтым кірунку зроблены ўжо па лініі партыйных і савецкіх органаў, Міністэрства народнай адукацыі рэспублікі. Але ж ідзе і адваротны працэс. Пакуль мы засядаем, крычым, пішам паперы, некаторыя кіраўнікі школ самачынна, без ведама і дазволу ўлад, пераводзяць навучанне на рускую мову, як гэта зрабіў, напрыклад, зусім нядаўна адзін з дырэктараў у Пружанскім раёне. Значыць, варта ўжо, як кажуць, «и власть употребить», каб гэты непажаданы працэс не толькі спыніць, але і павярнуць яго ў адваротны бок.

Як быць з ВНУ? Канечне, адразу ўсе інстытуты перавесці на беларускую мову нерэальна. Дый ніхто такой задачы сёння і не ставіць. Трэба пераводзіць спярша тыя навучальныя ўстановы, дзе для гэтага ёсць магчымасці. А каб такія магчымасці паявіліся ў кожнай установе, скажам, праз пяць-дзесяць гадоў, неабходна загадзя рыхтаваць кадры. Інакш мы праблемы не вырашым ніколі. І нельга спісваць сваю душэўную ляноту на аб'ектыўныя ўмовы. У пачатку дваццатых гадоў да нас ва універсітэт прыехаў з Масквы прафесар Пічэта і ўжо праз паўгода чытаў курс сваіх лекцый па-беларуску.

**З ЗАПІСКІ:**

**«Як вы адносіцеся да нефармальных аб'яднанняў, створаных у нашай рэспубліцы?»**

**Н. Гілевіч:**

— Усялякія формы грамадскага руху я гатовы вітаць, але пры адной умове, што гэта будзе (не на словах, а на справе) працаваць на перабудову ў тым сэнсе, як гэта абвешчана ў партыйных дакументах. Створанае ў рэспубліцы аб'яднанне «Талака» і з'яўляецца, на маю думку, менавіта такой формай грамадскага руху. Праграма іх дзейнасці—сведчанне не толькі абуджэння гістарычнай, нацыянальнай самасвядомасці нашай моладзі, але і яе духоўнага росту. Жыць толькі прагматычнымі інтарэсамі — знявашальна для маладога чалавека, маладога інтэлігента. Да таго ж, у Беларусі вельмі вострая праблема захоўвання гістарычных помнікаў, помнікаў культуры. Нідзе, бадай, не была так запушчана гісторыя роднага краю, як у нас. І справа не ў тым, што гісторыкі не працавалі. Яны працавалі актыўна — выходзілі і манаграфіі, і двухтомнікі, і шматтомнікі. Але

(Заканчэнне на стар. 6).

*Анкета «ЛіМа»*

## ГОД СЁЛЕТНІ І ГОД НАСТУПНЫ

### Віктар КАВАЛЕНКА



**Мінулы год быў надзвычай напружаны і цяжкі. Працэс перабудовы ад кожнага патрабуе новай мабілізацыі сіл. Акрамя інстытуцкіх турбот у гэтым напрамку, быў заняты напісаннем артыкула пра канцэптуальную гатоўнасць сучаснай літаратурнай крытыкі ўспрыняць ідэю перабудовы ў перадавых, рэвалюцыйных патэнцыях. Галоўны выток эмацыянальных імпульсаў для гэтай працы — у самім характары сучаснага грамадскага жыцця, якое трывожыць неапраўданай супярэчнасцю. Мінулы год, відаць, не аднаго мяне красамоўна пераканаў, што перабудова ў ідэалагічнай сферы і ў духоўным жыцці рэспублікі ідзе марудна і цяжка, што кансерватызм жывучы, што ён здатны пры пэўных умовах, пры недастатковай самаарганізацыі перадавых грамадскіх сіл, пераходзіць у лабавую, грубую, безаглядную атаку.**

**Асабліва мяне засмучае і трывожыць, што прадстаўнікам старых дактрынёрскіх пропісаў негалосна дазволена не цырымоніцца. І яны не цырымоняцца! У многіх матэрыялах, якія друкаваліся ў «Вячэрнім Мінску», — не толькі пагарда да элементарнай ісціны, але і адкрытая хлусня, апора на людзей нядобрасумленных, скампраметаваных сваёй папярэдняй дзейнасцю. Зададзена арганізоўваліся нападкі нібыта ад імя рабочага класа на тых прадстаўнікоў інтэлігенцыі, якія заўсёды імкнуліся гаварыць праўду пра свой час, саромеючыся нават лёгкіх форм лёкайства. Надзіва зацятымі былі спробы дыскрэдытаваць і адлучыць ад працэсаў перабудовы тых пісьменнікаў, як, напрыклад, В. Быкава і А. Адамовіча, якія ўсім зместам і пафасам сваёй творчасці заўсёды садзейнічалі падрыхтоўцы перамен у грамадскім жыцці краіны.**

**Кажуць, трэба, каб ва ўмовах перабудовы спаборнічалі многія ацэнкі, падыходы, думкі і канцэпцыі. Правільна! Але ж не можа спаборнічаць бруд і смецце. Маральны і філасофскі ўзровень палемікі ў рэспубліканскім друку катастрафічна зніжаўся. І камусьці гэта трэба і выгадна. Несумненна, што падобнымі метадамі робяцца спробы затармазіць ход перабудовы, накіраваць жыццё ў звыклае рэчышча адміністрацыйна-каманднай сістэмы, калі кіраваць лёгка, бо дастаткова загаду.**

**Хай Новы год прынясе нам больш надзеі, што перабудова ўмацуецца, і хай праца кожнага з нас будзе гарантыяй гэтай надзеі.**

*Анкета «ЛіМа»*

# ГОД СЁЛЕТНІ І ГОД НАСТУПНЫ

***Уладзімір КАЛЕСНІК***



Год мінулы быў, у маім адчуванні, гняўлівым з прасоння. Што бадзёрыла? — Поступ гуманізацыі жыцця, перадусім палітычных адносін на самым высокім узроўні, пераход на новае палітычнае мысленне. Што бянтэжыла, даймала, засмучала? Правінцыяльная інерцыя ў рэспубліцы і асабліва ў рэгіёнах, некантакты і кароткія замыканні паміж афіцыйнай і самадзейнай плынямі грамадскай думкі, паміж фармаламі і нефармаламі, інстанцыямі і нізавой ініцыятыўнасцю. Кіраўнікам яўна хацелася падстрыгчы і прычасаць самадзейнікаў па аўтарытарнай модзе.

Падзеяй нумар адзін, як і мае калегі — гуманітарнікі, літаратары, лічу дружнае падключэнне савецкай грамадскасці да гуманізацыі адносін на ўсіх узроўнях. Акцыяй палітычнага года была ліквідацыя ракет сярэдняй дальнасці, ініцыятыва нашага кіраўніцтва па скарачэнні колькасці войск на еўрапейскім кантыненце, ініцыятыва сумленнага парытэту, раўнавагі сіл.

Прыярытэтнасць агульначалавечага над нацыянальным і рэгіянальным пацвердзіў гуманістычны рух салідарнасці, дапамогі армянскаму народу, пацярпеламу ад стыхійнага бедства, спачуванне ўсіх краін і народаў свету, а ў першую чаргу савецкіх братніх народаў паказала, што жывуць у краіне высокія традыцыі роднасці, якія дапамаглі нам, беларусам, аджыць пасля жахаў вайны і фашысцкай акупацыі.

Пашана да агульналюдскога адкрывае перад кожным з нас браму скарбаў вялікага шматколернага свету, дапамагае знаходзіць разумныя суадносіны паміж нацыянальным, рэгіянальным і савецкім, спалучаць вялікія драмы народаў з малымі, але часта не менш балючымі клопатамі родных куткоў. Актывізацыя патрыятычных пачуццяў дазваляе заўважыць агульную запушчанасць рэгіянальнай культуры ў рэспубліцы. Дух уніфікацыі прывучыў нават студэнцкую моладзь вывучаць дыялекты і фальклор холадна, не любуючыся іх экзатычнай інакшасцю, а часта наадварот — крывячы губкі з-за таго, што вось нейкі там дыялект не хоча прыпадобіцца да літаратурнай нормы. Не звярталася ўвага на тое, што і літаратурная норма не падмацоўвалася практыкай інтэлігенцкіх эліт, што спарадзіла спакусы не прызнаваць прыярытэру, які існаваў толькі ў тэорыі на акадэмічным узроўні.

**Такія тэндэнцыі трывожаць у праграмных заявах некаторых ініцыятараў краязнаўчага таварыства «Полісся», якія плануюць аб'яднаць розныя дыялекты Палесся, рэгіёна, размешчанага на сутыках трох славянскіх культур, у адзін арэол і называюць яго мовай Палесся, незалежнай ад беларускай літаратурнай мовы.**

Паэтычныя вартасці дыялектных слоў і выразаў неабходна ўключыць у мову нацыянальную, беларускую, каб гаварыць са светам. Са скетчаў, дасціпных прыпевак і фацэцый сучаснай літаратуры не атрымаецца, нават калі дадаць да гэтых мілых у сваёй наіўнасці твораў пару сярэдненькіх банальных па змесце інтэлігенцкіх рыфмаванак на дыялекце. Для чаго патрэбна гэтае пераварочванне прыярытэтаў? Для задавальнення павышаных амбіцый аднаго-двух паэтаў, якім не ўдалося сцвердзіць сябе, пішучы па-беларуску. На здароўе, пішыце на бытавой гаворцы Моталя ці Іванава, але ж памятайце, што гутарковая мова ў прынцыпе мала прыдатна для стварэння паўнагучнай паэзіі. Фальклор, народная паэзія ствараюцца не на гутарковай мове дыялектаў, а на выпрацаванай вякамі вобразна-паэтычнай мове, якая з'яўляецца цудадзейным сродкам узбуджэння эстэтычных эмоцый. Ініцыятары падвышэння аднаго з дыялектаў Палесся да ўзроўню асобнай мовы парушаюць прыярытэты каштоўнасцей. Хіба канцлер ВКЛ, рэдактар славутага статута Леў Іванавіч Сапега, пісьменнікі-палемісты Лявонцій Карповіч, Афанасій Філіповіч—гэта толькі палешукі? Яны ж дзяржаўныя і культурныя дзеячы нацыянальнага маштабу. Зусім неўразумела гучыць і намер стварыць палеска-рускі слоўнік, ігнаруючы пры гэтым факт, што кафедра беларускай мовы Брэсцкага педінстытута склала ўжо і здала ў выдавецтва слоўнік дыялектаў Палесся, як дыялектаў мовы беларускай. Новае мысленне апавяшчае прыярытэт агульначалавечага над нацыянальным; класавым і рэгіянальным, а амбіцыйныя краяведы, родам з Іванаўшчыны — прыярытэт Мотальска-Іванаўскай гаворкі над беларускай нацыянальнай мовай.

Я адзначыў сабе ў думках як знамянальнае ўражанне пражытага года тое, што пачуў і пабачыў, дзякуючы тэлевізару, як танцуе і спявае на ўсіх сваіх дыялектах Расія. Прыгадвалася польская прыказка: «Як чэх зайграе, рускі запяе, а паляк станцуе — ніхто не паправіць». Думалася мне, гледзячы выступленні мотальскіх драматычнага і танцавальнага гурткоў: а ці не зрабіць універсальным гуманістычным крытэрыем ацэнкі ўсякай працы тое, ці спяваюць працаўнікі, а то і ці працуюць яны спяваючы. Такая праца фарміруе асобу чалавека, а не толькі спецыяліста.

# БЕЛАРУСКАЕ АПАВЯДАННЕ ПА-НЯМЕЦКУ



Die junge Eiche

*Klassische belorussische Erzählungen*

Reclam

У канцы 1987 года лейпцыгскае выдавецтва «Філіп Рэклам» выпусціла ў серыі «Універсальная бібліятэка» зборнік класічных беларускіх апавяданняў «Маладзы дубок». У выдавецкіх дадзеных пазначана «Падрыхтаваў выданне Норберт Рандаў». За гэтымі радкамі стаіць не толькі тое, што ён склаў кнігу, напісаў прадмову, даведкі пра аўтараў, але і не менш важнае — ідэя выдання кнігі.

Каб прыйсці да гэтай ідэі, трэба было набыць багата ведаў па беларусазнаўству, ды, можа, не менш укласці сіл і здольнасцей у пераклады твораў беларускіх пісьменнікаў на нямецкую мову. У выніку, у 1971 годзе з'явілася ўкладзеная нашым сябрам анталогія на нямецкай мове «Буслы над балотамі» (да працы над якой былі падключаны і іншыя перакладчыкі).

І вось цяпер новая анталогія, у якую ўключаны апавяданні 1905—1930-х гадоў: Ядвігін Ш. — «Чалавек», «Сабачча служба», «Гаротная», «При исполнении служебных обязанностей»; Якуб Колас — «Недаступны», «Малады дубок», «Хаім Рыбс», «Балаховец»; Змітрок Бядуля — «Тата» («Шалёны»), «Летапісцы», «Лявоніха і Сымоніха», «Сорам» («Сярод ночы»); Цішка Гартны — «Здарэнне з камісарамі»; Максім Гарэцкі «Роднае карэнне», «Рускі», «Чарнічка»; Андрэй Мрый—«Камандзір»; Кузьма Чорны—«Хвоі гавораць», «Трагедыя майго настаўніка», «Макаркавых Волька»; Міхась Зарэцкі — «42 дакументы», «Максімаліст», «Ракавыя жаронцы»; Платон Галавач—«Кнак»;

# ВЕРУ Ў РАЗУМНУЮ САДРУЖНАСЦЬ...

**(Пачатак на стар. 5).**

якая сёння ад іх карысць? Я не схільны абвінавачваць толькі гісторыкаў — час быў такі. Дык вось у святле гэтага мне здавалася і здаецца вельмі разумнай ініцыятыва моладзі аб'яднацца вакол праблемы адраджэння помнікаў гісторыі і культуры, выхавання гістарычнай самасвядомасці. Канечне ж, у гэтым руху, як і ва ўсякім іншым руху, тым больш маладзёжным, ёсць і прыкрыя недахопы, і недапушчальныя пралікі, пра якія трэба гаварыць, якія трэба пераадольваць, але нельга на гэтай падставе навешваць на маладых людзей ярлыкі, ставіць пад сумненне сам рух.

Што датычыць «Тутэйшых», аб'яднання маладых літаратараў, то яно адносна нефармальнае, бо створана пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі і працуе пад яго эгідай. Члены гэтага аб'яднання маюць сваю праграму — адраджэнне роднай мовы, садзейнічанне дзяржаўным органам у вырашэнні многіх праблем развіцця беларускай культуры. Тут нямала здольных маладых людзей. Скажам, адзін з іх, паэт А. Сыс, прыняты нядаўна ў члены Саюза пісьменнікаў. Шкада толькі, што і ў гэтым аб'яднанні юнацкі максімалізм, а часам, можа, і не дастатковая палітычная адукаванасць перашкаджаюць больш цвярозаму, узважанаму падыходу да некаторых пытанняў. Але варта бачыць галоўнае, што ёсць у гэтым руху, і падтрымліваць, развіваць яго, ставіць на службу перабудове.

**З ЗАПІСКІ:**

**«Вы расказалі пра «Тутэйшых». Але ж, відаць, літаратурная змена гэтым аб'яднаннем не вычэрпваецца?»**

**Н. Гілевіч:**

— Канечне. Трэба больш дэталёва разабрацца, што ёсць наша маладая літаратурная змена. Я сказаў бы, што таленавітыя людзі ідуць у літаратуру. Вядома, гэты прыток мог бы быць куды больш багатым, калі б не тая сітуацыя, якая склалася з беларускай мовай. Мы гэта адчулі. Адчулі не сёння, а яшчэ дзесяць-пятнаццаць гадоў назад, калі беларуская мова стала на вачах знікаць з нашых школ. Гэта непазбежна прывяло да таго, што аслабла эстэтычнае выхаванне моладзі, знізіўся ўзровень выкладання роднай мовы. Тыя парасткі літаратурных здольнасцяў, якія маглі б атрымаць падтрымку ў школе, не атрымоўвалі яе. Не дзіўна, што на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта з кожным годам прыходзіць усё менш і менш маладых паэтаў, празаікаў. І ўсё ж, будзем аптымістамі. Ва ўсякім разе, тыя захады, якія сёння робяцца ў рэспубліцы, даюць падставы спадзявацца на лепшае.

**З ЗАПІСКІ:**

**«Чаму ў «Маладосці» друкуюцца часцей за ўсё сталыя пісьменнікі? А дзе ж друкавацца маладым? Хіба гэта спрыяе іх росту?»**

**Н. Гілевіч:**

— Гэта няпраўда. Нават без асаблівага падліку, толькі пагартаўшы старонкі часопіса, бачна, што маладыя аўтары тут пераважаюць. І я не думаю, што нехта з сур'ёзных пісьменнікаў хоча свядома закрыць дарогу маладым. Наадварот. Намаганнямі Саюза пісьменнікаў мы дабіліся адкрыцця яшчэ аднаго маладзёжнага часопіса — «Крыніца». З гэтага года пачаў выходзіць літаратурны дадатак да «Маладосці». Выдавецтва «Мастацкая літаратура» штогод браніруе для маладых 12 пазіцый. Было б што выдаваць. А вось цікавых, таленавітых твораў якраз і бракуе.

**З ЗАПІСКІ:**

**«Што робіць Саюз пісьменнікаў БССР для адраджэння беларускай мовы, для паўнакроўнага развіцця беларускай культуры?»**

**Н. Гілевіч:**

— Ну а што можа зрабіць Саюз пісьменнікаў? Яго галоўная задача — ствараць спрыяльныя ўмовы для таго, каб усе члены Саюза маглі актыўна і плённа працаваць. Высокаідэйныя, высокамастацкія літаратурныя творы — наш галоўны ўклад і ў справу перабудовы, і ў справу развіцця роднай культуры. Але гэтага мала. Будзем весці шырокую растлумачальную, выхаваўчую работу. Будзем словам і справай садзейнічаць павышэнню аўтарытэту роднай мовы. Упэўнен: ад таго, што кожны жыхар рэспублікі будзе аднолькава добра валодаць дзвюма мовамі, шкоды ад гэтага нікому не будзе. Наадварот. Я веру, што толькі ў разумнай садружнасці, у супольнасці нашых мар і імкненняў, паважаючы адзін аднаго і тую зямлю, на якой жывем, мы зможам па-сапраўднаму адчуваць сябе шчаслівымі.

**Віктар КАРАМАЗАЎ**

# ...З УСІМ НЯЎТУЛЬНЫМ СВЕТАМ

**ДЗВЕ УКРАІНСКІЯ СТАРОНКІ**

## І да яго, і да сябе

**На вышыню Тарасаву ніхто ніколі не ўзыдзе, як ніхто ніколі не перажыве ягонае драмы, драмы прыгону. Але людзі, якія хочуць звацца людзьмі, ідуць і ідуць, падымаюцца на яго гару, бо ён, Тарас Рыгоравіч, усіх сюды, на Чарнечую, да сябе кліча, усіх збірае, каб паяднаць сваім болем і сваёй песняю. З яго вышыні па-новаму бачыш і свет, і самога сябе.**

**Гэтую думку я запісаў у кішэнны блакноцік, як сваё маленькае адкрыццё, ад жывога ўражання, на Чарнечай гары, ўзышоўшы на яе і аддыхаўшыся. Цяпер, праз колькі дзён, перачытаў і задумаўся: дзе і калі я рабіў першыя крокі да Кабзара?**

**Успамінаецца зіма сорак першага года: Татарыя, райцэнтр Старое Даржанова, двухпавярховая драўляная школа, школьны двор, у двары—стары драўляны дом, у ім —пакой з грубкаю пасярэдзіне, ложак за грубкаю, а пад ложкам — чорны драўляны куфэрак. Што за куфэрак? Чый ён? Што ў ім?**

**Бачу чарнявага настаўніка, татарына. Ён жыў у гэтым пакоі і пакідаў яго нам, ідучы на фронт. Бачу, як ён збірае на стале ў мяшок рэчы. Над сталом пад столлю, на кручку-драціне, падвешаны мех з сухарамі. Сухары настаўнік сушыў на чорны дзень, а падвешваў ад мышэй. Ідучы на фронт, пакідаў нам гэтае багацце, але і не толькі гэтае. Калі бацька, сястра і маці былі ў школе, і мы з ім, нашым нечаканым дабрахвотам, засталіся ўдвух у хаце, ён паклікаў мяне да сябе, дастаў з-пад ложка драўляны куфэрак, скінуў з яго маленькі замочак, адкінуў века і выклаў адтуль, з куфэрка, на стол дзіўныя рэчы: акварэльныя, у талерачках, фарбы, маленькі пэндзлік, вялікі сшытак, яшчэ навенькі, для малявання, карабок каляровых алоўкаў і кнігі — Сланімскага «Чарнігаўцы», раман, і Шаўчэнкаў «Кабзар». Настаўнік пагладзіў мяне, малога, па галаве — мне было сем гадоў, і я ўжо чытаў — і сказаў: «Гэта я пакідаю табе. Гэта мой табе падарунак. Можа, калі-небудзь і ты мяне ўспомніш». І я помню яго да гэтага часу, бо куфэрак, які ён мне падарыў, шмат у чым вызначыў мае захапленні ў маленстве, маё развіццё, мае духоўныя пачаткі, берагі маёй патаемнай размовы з жыццём. Праз чатыры гады вайны той куфэрак я прывёз, вярнуўшыся з бежанства, у Крычаў, і ён яшчэ і цяпер — праз паўстагоддзе — стаіць, абыгрызены мышамі і абдзёрты, недзе на гарышчы маёй крычаўскай хаты. На кніжнай паліцы стаіць той самы «Кабзар», побач з «Чарнігаўцамі», — кнігі мне дарагія, бо адны з першых маіх кніг, па якіх я вучыўся разумець свет і самога сябе, якія шмат чаму мяне навучылі, шмат сцежак у жыцці мне паказалі. А тыя фарбы, той пэндзлік? Іх я ўжо не знайду, але і яны тое-сёе ва мне абудзілі, выяснілі. Яшчэ можна знайсці ў той самай крычаўскай хаце і па суседзях ці мае акварэлі, ці карціны, напісаныя алеем на палатне, якім тады, у першыя пасляваенныя гады, былі нямецкія мяхі з арламі ды свастыкамі, якія я старанна загрунтоўваў, нацягнуўшы палатно на падрамнік. Сярод акварэлей з пасляваенных гадоў застаўся і партрэт Шаўчэнкі, копія з таго, якім адкрываўся «Кабзар», таго, з куфэрка, даваеннага выдання: густыя вусы, суровы пагляд на свет, на галаве папаха, кажух на плячах. Намаляваўшы, я прынёс яго, па-**

Лукаш Калюга — «Трахім — штучны чалавек», «Цеснаватая куртачка», «Вам знаёмае»; Ян Скрыган—«Таіса», «У Кірылы на хутары». Своеасаблівым запевам да кнігі гучаць змешчаныя на яе пачатку беларуская народная казка «Дудар» у апрацоўцы Якуба Коласа і імпрэсія Яна Скрыгана «Памяць зямлі». Гэта пералік сведчыць, што выбар твораў зроблены на высокім эстэтычным узроўні.

Расказаў пра змест і зноў жа падумаў: колькі трэба было прачытаць прозы, каб адабраць тое, што ўвайшло ў кнігу, колькі ўкладзена тут працы. А Рандаў не любіць ісці па пратаптанай дарожцы, ён кожны раз імкнецца зрабіць «сваю» кнігу, «сваю» анталогію. Мы прывыклі, што звычайна ўкладальнікі ў анталагічных выданнях даюць твор і невялічкую нататку пра аўтара. На гэты раз, у анталогіі Рандава, амаль кожнаму аўтару папярэднічае кароткае, эмацыянальнае слова, я сказаў бы, эцюд, нашага майстра навелы Яна Скрыгана, папярэднічае тым празаікам, з кім ён бачыўся, знаўся...

У дачыненні да другіх аўтараў зборніка Рандаў звярнуўся да іншых крыніц. Так, да Андрэя Мрыя ён узяў урывак з успамінаў Заіра Азгура, да Ядвігіна Ш. скарыстаў некралог Палуты Бадуновай пра пісьменніка. Усе гэтыя матэрыялы не толькі пашыраюць гарызонты кнігі, яны робяць яе больш значнай, цікавай. Дарэчы, вяртанне твораў Андрэя Мрыя ў нас адбылося на год пазней, чым знаёмства з яго творчасцю ў ГДР. А апавяданне Алеся Гаруна «Пан Шабуневіч», якое ў нас на той час не перадрукоўвалася, было ўключана Рандавым у анталогію «Буслы над балотамі».

Яшчэ адно ўражанне ад гэтага выдання як чытача. Я не асабліва прымаю замежныя анталогіі агульнага характару, у якіх кожны аўтар прадстаўлены адным творам, яны не даюць уяўлення пра творчую індывідуальнасць мастака. Іншая справа, калі такія анталагійныя зборнікі прысвячаюцца пэўнай тэме або творам пэўнага перыяду. З цікавасцю чытаеш анталогіі агульнага характару роднай прозы ці паэзіі, бо ты маеш пэўнае ўяўленне пра творчасць пісьменніка, і тады ўзнікаюць розныя думкі, асацыяцыі, настрой. Наш сябра ўключыў у сваю анталогію адзінаццаць празаікаў, і амаль кожны з іх прадстаўлены некалькімі творамі. І прачытаўшы апавяданні, даведку і ўспамін, нямецкі чытач, мне здаецца, зможа ўявіць творчы міні-партрэт кожнага аўтара гэтай анталогіі.

Такое першае ўражанне выклікала ў мяне знаёмства з анталогіяй, атрыманай з Берліна. Застаецца дадаць, што з Норбертам Рандавым над перакладамі твораў беларускіх пісьменнікаў працавалі таксама Міхаіл Дэвеў, Карл Гутшміт, Хармут Хэрбот, Ірыс Лорэнц, Клаус Мюллер, Гундула і Уладзімір Чапегі, Ігар Чапега, Эрхард Вайнхолец.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

# АМЕРЫКАНСКІ ДЫПЛАМАТ У РЭДАКЦЫІ «ЛіМа»

**«Адносіны паміж Савецкім Саюзам і Злучанымі Штатамі Амерыкі налічваюць пяць з палавінай дзесяцігоддзяў. Мяняўся свет — мяняліся і характар, роля, месца гэтых адносін у сусветнай палітыцы,—гаварыў нядаўна на 43-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН М. С. Гарбачоў. — Вельмі доўга яны будаваліся пад знакам канфрантацыі, а часам варожасці—то адкрытай, то скрытай. Але ў апошнія гады ва ўсім свеце змаглі ўздыхнуць з палёгкай дзякуючы зьмяненням да лепшага ў сутнасці і атмасферы ўзаемаадносін паміж Масквой і Вашынгтонам».**



Кенэт Хілас у час гутаркі.
Фота Ул. КРУКА.

**Пацяпленне ў адносінах паміж дзвюма вялікімі краінамі мінчане маглі зазначыць па тым элементарным факце, што толькі на працягу апошніх тыдняў у сталіцы рэспублікі адкрываліся амерыканскія выстаўкі. Спачатку—«Шматкніжная Амерыка», потым—«Інфарматыка ў жыцці ЗША». У сувязі з апошняй Мінск наведаў другі сакратар пасольства ЗША ў СССР Кенэт Хілас. Па яго просьбе адбылася сустрэча ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». Сказаўшы, прадстаўляючыся, што ён працуе ў ідэалагічным аддзеле пасольства і займаецца пытаннямі ўнутранай палітыкі Савецкага Саюза, К.Хілас цікавіўся грамадска-палітычным, культурным і духоўным жыццём у нашай рэспубліцы, праблемамі перабудовы і дэмакратызацыі, характарам рэдакцыйнай пошты. Адказваючы на адно з зададзеных яму пытанняў, амерыканскі дыпламат зазначыў, што аптымістычна глядзіць на працэс перабудовы, выказаў спадзяванне на далейшае развіццё амерыканска-савецкага супрацоўніцтва ў справе раззбраення, у галіне культуры і правоў чалавека. Заходзіла таксама размова аб літаратурных узаемасувязях, аб выданні твораў беларускіх аўтараў у ЗША, аб культурным абмене паміж так званымі параднёнымі гарадамі.**

мятаю, у школу. Быў урок літаратуры. Настаўніца Дар'я Маркаўна заўважыла яго ў мяне і павесіла на класную дошку — пачала чытаць на памяць:

Нащо мені чорні брови.
Нащо карі очі,
Нащо літа молодії.
Веселі дівочі?
Літа мої молодії
Марно пропадають,
Очі плачуть, чорні брови
От вітру линяють.

Пасля гэтага Дар'я Маркаўна, адна з лепшых маіх настаўніц, часта казала мне: «Віця, намалюй партрэт Пушкіна да наступнага ўрока». Ці: «...партрэт Лермантава». І я маляваў. І Пушкіна, і Лермантава, і Гогаля, і Някрасава. Яна вешала партрэт на класную дошку і вяла ўрок. Тады ў школе нагляднасці, як цяпер, не было, не было ні кніжак, ні партрэтаў пісьменнікаў. Мала ў каго былі падручнікі.

Чаму гэта ўспамінаю зараз? Ды таму, што адтуль, ад настаўніка-татарына, ад яго куфэрка, ад «Кабзара» і фарбаў з таго куфэрка, які знайшоў мяне ў далёкім сорак першым, пачалася мая сцяжына сюды, на гару Чарнечую. А яна і не можа быць лёгкая. Тут, у Каневе, мне расказалі, як пасля вайны на гару Чарнечую падымаўся салдат, вярнуўшыся з вайны без ног. Людзі хацелі падхапіць пад рукі, панесці на гару, да Тараса, але ён адмовіўся ад іх ласкі, сказаўшы: «Тарас не прыме мяне, калі я сам да яго не падымуся». І ён падняўся на Чарнечую гару да Кабзара — без ног. І калі б некалі мая любімая настаўніца не прачытала гэтае шаўчэнкаўскае: «Нащо мені чорні брови...», калі б гэта не засталося ў памяці з таго галоднага пасляваеннага года, можа б, я не пачуў «Думы» паэта з гэтакім неверагодным хваляваннем, з якім пачуў іх цяпер, ледзь пераступіўшы парог доміка-музея Шаўчэнкі на былым Казіным балоце ў Кіеве ў адну з раніц сакавіка, прыехаўшы сюды на святкаванне ўгодкаў вялікага Кабзара.

Думи мої, думи мої,
Лихо мені з вами!

Наверсе, пад столлю мансарды, куды вяла лесвіца, спяваў, яднаючы тугу чалавечай душы з тугою струн бандуры, цудоўны ўкраінскі спявак Юрый Дзямчук, а здавалася, што там, угары, усё роўна як недзе пад небам, на сваё Чарнечай гары, са светам гаворыць сам Тарас Рыгоравіч. І гаворыць, і кліча да сябе на размову. І ты ідзеш-падымаешся лесвіцай, быццам на яго голас. Быццам падымаешся на Чарнечую гару. І да яго, і да самога сябе.

Гэта я заўважаў і раней: кожны крок да Кабзара — крок нібыта і да самога сябе. Там, на Чарнечай, пачуўшы пра таго бязногага салдата, я зразумеў, што гэта адчуванне — не толькі маё. І тут — адна з таямніц яго паэзіі.

Як спасцігнуць гэтую таямніцу?

Ёсць пытанне. Да самога сябе. Нечаканае. Калі б маё адкрыццё Кабзара супала з цёплымі, ціхімі, сытнымі, мірнымі святамі, проста шчаслівымі днямі майго жыцця, ці адгукнулася б душа на голас шматпакутніка Тараса Рыгоравіча так, як яна адгукнулася?..

Куды дзенешся — жывуць таямніцы і загадкі паэзіі. Але гэта не толькі таямніцы і загадкі паэта. Яшчэ гэта таямніцы і загадкі душы, якая адкрывае душу паэта. І вось гэта, апошняе, магчыма, свет не менш хвалюючы, як свет самога паэта.

Аб гэтым думаеш, і калі ўспамінаеш сваё, і калі бачыш, як ідуць ды ідуць на Чарнечую гару да паэта людзі, калі ўяўляеш, што гэта ідзе народ і што ён, народ, ідзе да паэта вунь з якіх часоў!..

Так і яшчэ раз — так: і да яго, і да саміх сябе.

## Камяняр

Якою б цемрай і безвыходнасцю ні здавалася жыццё на пуцявінах гісторыі, выйсце чалавецтва заўсёды знаходзіла. Да свята і надзеі. І калі ў свеце пануе ўсё ж закон раўнавагі, які дае магчымасць выжыць сумленню і праўдзе, то гэта таму адбываецца, што чалавецтва не страчвае здольнасці нараджаць геніяў духу.

Ці не аб гэтым сказаў Іван Франко ў сваім «Прысвячэнні» Тарасу Рыгоравічу Шаўчэнку?

«Ён быў сынам мужыка і стаў уладаром у царстве духу».

Ужо самы першы радок «Прысвячэння» спакушае задумацца: а ці не з'яўляецца гэты партрэт Шаўчэнкі, напісаны энергічным публіцыстычным словам Івана Франка, яго ўласным партрэтам — самапартрэтам?

Ва ўсякім выпадку, сказаць пра вялікага настаўніка так катэгарычна мог толькі вучань, у сэрцы якога гарэў ваяўнічы агонь Кабзара.

«О мої народ!..»

І гэта — не толькі першы радок з «Маісея». Гэта ўздых самога Франка. І ўздых, і адчуванне свае высокай місіі перад сваім народам. Яго Маісей не проста біблейскі вобраз, які выводзіць свой народ з егіпецкага палону. У ім — пэўны ідэал самога Франка.

Гэтак мне думалася ва ўтульна-ўрачыстай калоннай зале кіеўскай філармоніі на Уладзімірскай горцы, апранутай у мажорна-зялёныя, дзе-нідзе ўжо з мінорна-ржавымі плямамі, вопраткі верасня, калі Украіна разам з усім славянскім светам адзначала 130-годдзе Івана Франка. Сядзеў, слухаў, што кажуць людзі, выходзячы да трыбуны, сваё ўжо сказаўшы другім ці трэцім, і дзівіўся: цэлае стагоддзе, пра яго, класіка, кажуць, кажуць хораша, разумна, не шкадуючы вышыні слоў і голасу, а хто сказаў мацней, як ён сам? Хто і дзе?..

Пачаўся канцэрт. На сцэну выйшаў Андрэй Паламарэнка—артыст у званні народнага Украіны:

Я дзіўны бачыў сон. Перада мной нібыта
Ў пустэльнай дзікасці бязмежнае плато,
І я, сталёвым ланцугом абвіты,
Стаю пад скальнай стромаю з граніту,
А далей тысячы такіх, як я, братоў.

Няма пад рукой томіка паэта на яго роднай украінскай мове, тэкст прыводжу ў перакладзе на нашу мову Уладзіміра Караткевіча. Ды не гэта тут важна. Пераклад выдатны. Тут — пра іншае. Пра свой, як слухача, стан.

І ўсе мы, як адзін, узнеслі ўгору рукі,
І безліч молатаў аб камень загуло...

О, што такое сапраўдны артыст! Ён сам, увесь раптам нібыта ператварыўся не то ў скалу, не то ў метал молата, голас вырваўся нібыта не з чалавечых грудзей, а з той скалы, дакладней — з-пад яе смяротнага цяжару, і ўзнёсся, нібы скінуўшы з сябе ланцугі, да неба, скалануў усё навокал, нібы аб'яднаўшыся з усім светам:

Дзяўбіце гэты ўцёс!..

Акно ў залу са шкляным звонам расчынілася, да столі ўзляцелі, нібы ветразі ці сцягі, лёгкія шторы, і разам са свежым паветрам сюды шуганула пунсовае восеньскае лісце. Яно густа ляцела па зале, па сцэне, вецер гайдаў паветра і люстры, але, здавалася, ніхто гэтага не заўважаў і не чуў, ніхто не падхапіўся з крэсла, каб зачыніць акно — іншы вецер трымаў усіх у сваім палоне, куды мацнейшы:

Дзяўбіце гэты ўцёс!..

Я выйшаў з залы, з філармоніі.

Вечар, даволі позні, на збегу з ноччу, быў не халодны, але ветраны, імжыў дробны, нясмелы ці лянівы, дожджык. Вецер гнаў па Уладзімірскай горцы, унізе—па вуліцы сухое восеньскае лісце. Гэта было самае цяжкое восеньскае лісце Кіева, яго ліп і каштанаў, за ўсе часы, за ўсе вякі. На ім быў цяжар металу Чарнобыля. Лісце густога зялёнага футра Кіева прыняло на сябе воблакі смерці з Чарнобыля і цяпер, пажоўклае, густа сыпала на зямлю, пад ногі, на галовы. Удзень пра яго шмат гаварылі, яго паспешліва змяталі, зграбалі, грузілі на аўтамашыны, вывозілі за горад, закапвалі ў глыбокія ямы, а яно ўсё сыпала і сыпала. І ляцела ў залу філармоніі. І там, у шматлюднай зале, яго не заўважалі. Не заўважалі і тыя, хто пра яго шмат гаварыў удзень і, можа, з бояззю.

І ўсе мы, як адзін...
...тысячы такіх, як я, братоў.

Я ішоў па Кіеве і думаў пра тое самае: чаму не магу пазбавіцца — хоць, праўда, і не стараюся гэтага рабіць — адчування, што ўсё гэта, сказанае Іванам Франком, сказана нібыта кімсьці іншым пра яго самога? Але цяпер у гэтым пытанні мне гучаў і адказ на яго. Гэты адказ быў у самім лёсе паэта. У яго пастаянным, праз усю творчасць, праз усё жыццё, матыве: ...такіх, як я, братоў.

...такіх, як я...

Ён знайшоў у сабе гэты ўнутраны голас, голас брата ўсіх людзей, гэтым голасам гаварыў са светам, ён быў яму арганічны, ішоў ад сэрца, ад лёсу, агульнага з лёсам спакутаванага свету, і гэты паэтаў голас да «такіх, як я», пра «такіх, як я», «такіх, як я, братоў» высвятляў яго самога з той сілаю, з якой ён гаварыў пра іншых.

Зрэшты, у гэтым таленце — доля ці не кожнага сапраўднага паэта?

Вось і ў Цёткі:

Хацела б быць зярном пшаніцы,
Упасць на ніўкі вёскі...

Іншае? Але, па сутнасці, тое самае: агульнасць лёсу — з усімі, з усім няўтульным светам.

*Анкета «ЛіМа»*

# ГОД СЁЛЕТНІ І ГОД НАСТУПНЫ

## *Анатоль КАЗЛОВІЧ*



Для мяне гэта быў год павучальных расчараванняў. Калі ў каторы раз мы спешна абмяркоўвалі чарговы закон (аб выбарах), я злавіў сябе на пытанні: мой удзел ва ўсенародным абмеркаванні — палітычная гульня? Я ўспомніў, з якой прагнасцю чытаў газеты напярэдадні XIX партканферэнцыі, як адгукалася мая душа на слушныя прапановы людзей, але спадзяванні мае спраўдзіліся далёка не ўсе.

Напрыклад, былі прапановы вызваліць прэсу з-пад улады бюракратыі, каб прэса была сапраўды плюралістычнай. Большасць дэлегатаў канферэнцыі сустрэлі мудрую прапанову ў штыкі.

Я прафесійны газетчык, журналістыка — мой грамадзянскі, партыйны, асабісты абавязак. Я верыў, што будуць створаны ўмовы для таго, каб я мог адкрыта выказаць свае думкі. Не! На працягу ўсяго адыходзячага года рэспубліканская прэса ганьбавала мяне за тое, што я асмеліўся сказаць праўду пра ліхадзействы меліярацыі і некаторых прадстаўнікоў кіруючага апарату.

Прыкра, але я не мог уступіць у палеміку. Па-першае, з адчаем зразумеў, што мая думка не цікавіць тых, хто арганізуе манаполію прэсы, хто маіх калег-журналістаў прымушае ісці супраць сумлення (супрацоўнікі «Советской Белоруссии» баяліся нават косачку паправіць у артыкулах апалагетаў меліярацыі Скарапанава і Будзінаса). Па-другое, ні мне, ні маім шматлікім аднадумцам не дазволілі выказацца ў прэсе, не былі надрукаваны і пісьмы-водгукі чытачоў пра тую ж меліярацыю, якая вядзе Беларусь да абвастрэння экалагічнай сітуацыі.

Вось вам і вынік: калі раней людзей дурманілі васемнаццаціпрацэнтным вермутам, то цяпер дурманяць васемнаццаціпрацэнтным плюралізмам. А каб я не бачыў усяго гэтага, каб зноў стаў сляпы, 30 кастрычніка мне ў вочы пырснулі асляпляльным газам...

Дзесяць секунд я пастаяў асляплены, потым выцер слёзы — і зноў бачу! Бачу, што робіцца вакол, стараюся дакладна перанесці на паперу, а паперу нясу ў рэдакцыю, каб надрукаваць, значыць, цепліцца ўва мне надзея.

Думаю, гэта і ёсць рэальны прамежкавы вынік перабудовы: нязгасная Надзея.

У гэтым годзе выйшлі дзве мае кнігі: адна ў Мінску, другая ў Маскве. Кнігі публіцыстыкі ішлі да чытача надта доўга: з Мінска—два гады, з Масквы—аж восем.

Скажыце, калі ласка: ці можа аўтар радавацца гэтай сумнай акалічнасці? Аўтар можа толькі гневацца і зноў-такі спадзявацца на лепшае. Лепшае — наперадзе! Значыць, трэба жыць.

*Проза*



Генрых Далідовіч



# Эвакуацыя

**Закончыў трылогію «Гаспадар-камень».**

**У першым рамане з аднайменнай назваю я намагаўся паказаць лад жыцця ў беларускім краі напярэдадні першай сусветнай вайны, у другім, у «Пабуджаных» — падзеі 1917 года, а ў трэцім рамане «Свой дом» — спроба адлюстраваць надзвычай цяжкі 1918 год і складаныя перыпетыі ўтварэння беларускай дзяржаўнасці.**

**Карыстаючыся магчымасцю, шчыра дзякую гісторыкам М. Сташкевічу і В. Скалабану, пісьменніку Э. Ялугіну, энцыклапедысту М. Камінскаму за кансультацыі і літаратуру.**

**Увазе чытачоў прапаноўваю ўрывак з рамана «Свой дом», дзе апісваецца драматычны мінскі эпізод у ноч з 19-га на 20-ае лютага 1918 года.**

**АЎТАР.**

ЯНЫ прыселі — на хвілінку, каб неўзабаве падняцца і ўжо рушыць у далёкую дарогу.

Звонка падаў свой голас у нямой цішыні тэлефонны званок. Падхапіўся, трубку ўзяў нервовы, аброслы за дзень Мяснікоў. Паранейшаму ў шынялі і чорнай скуранай шапцы.

— Ну я, Мяснікоў, — хмурна адказаў таму, хто званіў, і тут жа сам спытаў: — А вы — хто? Які такі ўжо Народны сакратарыят?! Самазванцы!

Не зажадаў болей гаварыць, падаў трубку яму. Ландар прыклаў яе, яшчэ халодную, да вуха і пачуў мужчынскі глухаваты голас:

— Не, шаноўны. Мы — не самазванцы. Мы — з ліку тых 105 чалавек Савета, які выбраў і зацвердзіў наш снежаньскі кангрэс. Цяпер мы як законны Беларускі Прадпарламент бяром на сябе законнае права клапаціцца пра свой народ. А вось вы, чужакі, гвалтам захапілі тут уладу, штыкамі разагналі наш з'езд і ўрад, дык вы сапраўды самазванцы. Але вам нічога не дакажаш, бо ў вас свая карыслівая мэта, дык і не будзем дыскутаваць. Тым больш, што справядлівасць усё ж ёсць: вы, адкуль прыйшлі, туды і ўбіраецеся, а мы бяром уладу, ахоўваем родны край, ад якога нам няма куды ўцякаць. А вось пра іншае пагаварыць трэба... — А пасля занепакоена: — Алё? Алё?

— Слухаем, — спакойна прамовіў Ландар і, калі чалавек з глухім голасам запытаў, хто ён, то назваўся.

— Мы заклікаем вас, Ландар, да сумлення, — сказалі яму ў трубку.

— Да якога?

— Гісторыя некалі ацэніць: добра ці дрэнна тое, што вы кінулі нас пад ногі немцам і Доўбар-Мусніцкаму. Цяпер жа гутарка, кажу, пра іншае. Не на словах, а на справе, будзьце ласкавы, урэшце падбайце пра наш народ. Пра тых, хто і на вас працаваў.

— Што вы хочаце?

— Як мы паспелі ўжо абсачыць, вы забіраеце з сабою казну, астатняе падчысцілі ўжо збеглыя з турмы легіянеры. Нам удалося сабраць, як кажуць, толькі крошкі. Значыць, наш люд застаецца без капейкі, асуджаны на голад і выміранне. Адпаведна, мы патрабуем: вярніце казну!

— Мы, як і кожны ўрад, які сябе паважае, не можам пакінуць фінансы ворагу.

— Чаму — ворагу? Народу! У тым ліку і тым, хто, паўтараю, ужо на вас гнуў спіну!

— А каму, дазвольце вас спытаць, мы павінны перадаць скарб?

— Нам, новаму ўраду.

— Ніколі! Вы спажывіцё на свае карыслівыя мэты альбо паслужліва аддасцё немцам.

— Мы даём чэснае слова, што ўсе грошы будуць толькі для працоўных і служачых.

— Ну-ну! — ухмыльнуўся Ландар, пацёр вольнаю рукою ахаладнелыя нос і шчокі. — Вы і чэснае слова! Хто кляўся асабіста мне, што не будзе змагацца супраць Савецкай улады, але крывадушна парушыў клятву?

— Якраз вы глухатой да нашага болю і дэспатызмам змусілі нас пайсці ў падполле. Вы і ў гэтыя дні — бесы: аддаіцё край, Расею немцам, а з намі, нацыяналамі, ваюеце насмерць!

— Перастаньце, двудушнік! — спакойна, але рэзка перапыніў Ландар. — Мы з дэкрэтамі пра мір, пра зямлю, з нядаўняй «Дэкларацыяй правоў працоўнага і эксплуатуемага народа» зламыснікі?

— Ха-ха! — нервова засмяяліся ў трубку. — Скажыце, калі ласка, дзе ваш дакляраваны мір, дзе зямля?! Усё — цацанка-абяцанка! Вы дбаеце толькі пра ёселяў і янкеляў! Вось ім даіцё ўсё: уладу, пасады, правы, золата, яны — цяпер новыя паны над намі!

— Мана! Паклёп!

— Карацей, Ландар, калі вы не пакінеце казну, мы затрымаем вас і будзем судзіць! Як ворагаў, рабаўнікоў беларускага народа!

— Рукі кароткія ў вас, спадарок!

У гэтую хвіліну рослы камендант у чорнай скуранай куртцы і шапцы борздка падышоў да акна і, затуліўшы шчокі далонямі, зірнуў уніз, на ўжо ўцемненую Петраградскую вуліцу. Але тут жа рэзка адскочыў.

— Натоўп распраўляецца з нашай вартаю, — усхвалявана прамовіў. — Выходзьма, таварышы! Праз чорны ход!

Ландар кінуў на рычажкі трубку, увішна схапіў пакоўны партфель з дакументамі Савета, важкі, загадзя сабраны чамадан і ўслед за Пятровым і Мясніковым, пакідаючы свой асветлены лямпаю кабінет, подбегам падаўся ў прыёмную, а пасля — па цёмнай лесвіцы ў змрочны двор, з яго — да вакзала, дзе чакаў іх цягнік на Смаленск. Там, як сказалі яму, павінны быць ужо каля ста чалавек з Аблвыкамзаха з сем'ямі, вайсковы атрад, вагоны з дакументамі, зброяй і харчам, некалькі класных вагонаў і платформа з браневікам.

Паўцемнаваты, толькі там-сям з асветленымі вокнамі вакзал, як убачыў Ландар, быў ачэплены байцамі з вінтоўкамі — тыя не пускалі да пуцей розны падазроны люд. Згледзеўшы іхнюю тройку, той-сёй з гэтага гурту, мусіць, пад'юшчваючыся ад стыхіі, суцемак і пачуцця ўсёдазволенасці, пагрозна памкнуўся насустрач.

— Назад! Застрэлю на месцы! — Пятроў наставіў рэвальвер на найбліжэйшага таўсматага дзецюка ў ватоўцы з авечым каўняром і ў салдацкай шапцы, запыніўся, прапускаючы наперад Ландара і Мяснікова.

Дзяцюк, а за ім і астатнія маладыя хлопцы ў шынялях і кажушках замерлі, бо ў гэты час на іх наставілі рулі вінтовак і байцы. Нечакана дзецюкоў расштурхнула, выбегла сюды высакаватая і тонкая паненка ў доўгай спадніцы, у кароткім кафтаніку і круглай чорнай шапачцы, залямантавала:

— Са-ша!

Пачуўшы гэты знаёмы, толькі цяпер адчайны голас, Мяснікоў запыніўся — у адно імгненне да яго падскочыла гэтая асоба з клункам, кінулася на грудзі.

— Сашачка, забяры мяне з сабою!

Дзецюкі смачна і на розныя лады зарагаталі:

— Гы-гы-гы!

— За камісарыка захацела!

— Мы цяпер цябе таптаць будзем!

Мяснікоў застаўся пагутарыць са сваёю прыхільніцай, а Ландар з Пятровым скрозь ачапленне падаліся да брамы. І ўжо ім панёслася ўслед:

— Накамісарыліся!

— Прадалі нас немцам!

— Чырвоная сволач!

Не зважаючы на злыя выкрыкі, Ландар падаўся па пероне ўздоўж вагонаў з неасветленымі вокнамі, туды, дзе каля слупа з ліхтарам стаяла купка цёпла апранутых людзей: Калмановіч, Кнорын, Селязнёў, Алібегаў, камандзір аховы Вайсдорф.

Ландар падаў руку Калмановічу — сярэдніх гадоў мужчыне ў валёнках, сялянскім кажуху і авечай шапцы, таксама сёння абросламу — і пажартаваў:

— Ну што, у пуць-дарогу, Майсей Іосіфавіч?

— Не вельмі, — маркотна адказаў той. — Усё яшчэ няма паравоза. Расстралялі начальніка станцыі, тагосяго ў дэпо, трэслі іншых — нічога не памагае. Усе клянуцца: ходкія паравозы ў раз'ездзе.

— Сабатаж, — прамовіў Ландар. І да Пятрова: — Хадзем, пазвонім нашым знаёмым у чыгуначны камітэт. Яны павінны памагчы.

Рушылі на станцыю. Яна была пустая і халодная. Пад скупым святлом зайшлі ў кабінет былога начальніка, дзе таксама нікога не было. Толькі над сталом на доўгім дроце вісела лямпа ды на сцяне каля шафкі сіратліва і сумна цікаў стары гадзіннік.

Ландар прысеў на край стала, узяў тэлефонную трубку — тэлефон, на шчасце, працаваў. І калі пачуўся знаёмы прыемны жаночы галасок, ён сказаў:

— Святлана, будзьце ласкавыя, злучыце мяне з чыгуначным камітэтам.

Тэлефаністка злучыла. І досыць хутка.

— Я — Ландар,— прамовіў ён. — Паклічце, калі ласка, Штэймана.

— А яшчэ каго? — пачуўся ў адказ з'едлівы голас. З выклікам па-беларуску. — Беленькага альбо Смірнова?

— Хто вы? — схмурыўся ён.

— Памочнік мінскага каменданта і начальніка гарнізона Адась Аўторак. Так што, калі чаго трэба, гаварыце са мною.

Ландар рашыў не разводзіць лішнія гавэнды, адразу сказаў пра сваё:

— Нам трэба паравоз.

— І ўсё? Чаго так мала?

— Хопіць з нас і гэтага.

— Яшчэ б! Кідаеце на глум, абабралі да ніткі!

— Слухайце! — не вытрываў, павысіў голас Ландар. — Я не жадаю з вамі палемізаваць. Паравоз! І тэрмінова!

— Ёсць паравоз. І не адзін. Але мы можам даць іх толькі з адной умовай...

— Якая яшчэ ўмова?

— Вярніце нам трыццаць тысяч рублёў.

— Мы не дадзім вам ні капейкі!

— Ну, дык *самі* цягніце вагоны!

Там, у камітэце, паклалі трубку — тут, на гэтым канцы дрота, у ягонай трубцы раз за разам запіпікала. Назойна, непрыемна. Пунсавеючы ад злосці, Ландар патрымаў крыху трубку, нібы не верачы ў пачутае нахабства, а пасля папрасіў тэлефаністку, каб зноў злучыла яго з былым камітэтам. Але цяпер тая даволі доўга (за гэты час прыйшоў ужо сюды Мяснікоў з Калмановічам) не магла дазваніцца: відаць, той нахабнік перамаўляўся са сваімі, якія, бач, сапраўды ўжо выйшлі з падполля і пачалі самаўпраўнічаць у горадзе. Жыццё ўжо і іх навучыла на хаду падэшвы адрываць.

Аднак ён не паспеў сказаць Мяснікову і Калмановічу пра ультыматум, бо ў гэты час тэлефаністка дала знак, што можна гаварыць па тэлефоне.

— Ландар, — зноў першы назваўся ён. І патрабавальна ўжо: — Неадкладна прышліце прыхаваны спраўны паравоз!

— Хвілінку, — груба перабіў яго ўсё той жа прыкры, глухаваты бас. — Мы прыйдзем зараз да вас на перамовы. Падбайце, каб нас прапусцілі на станцыю і ахоўвалі.

Той чалавек зноў першы абарваў размову. Ландар, як і дагэтуль, з непрыемным пачуццём хвіліну-другую патрымаў трубку ў руцэ, няўцямна пазіраючы на яе. Адчуў: аж трасе ад абурэння. Па-першае, вунь як ужо размаўляюць, а па-другое, ужо ведаюць, што яны якраз тут, на станцыі.

— Ну, што? — нецярпліва запытаў пунсовы Мяснікоў (можа, расхваляваўся пасля размовы з настойлівою паненкай), узяў з яго рукі трубку і паклаў яе на рычажкі.

— Ідуць на перамовы, — знайшоў сілы ўсміхнуцца. Хоць, мусіць, не вельмі весела.

— Якія перамовы? — выкрыкнуў Мяснікоў, хапіўся за кабур. — Да сцяны сволач!

— На жаль, не паставіш, — уздыхнуў Ландар. І Пятрову: — Ідзіце, сустракайце парламенцёраў.

Той паслухаў, падаўся са станцыі і праз паўгадзіны вярнуўся з незнаёмымі трыма мужчынамі: двое з іх, пажылыя, былі ў цывільнай вопратцы, а трэці, малады, стройны, відаць, нядаўні афіцэр,— у шынялі, але без пагонаў. Усе мелі павязкі на рукавах.

— Адась Аўторак, — казырнуў, басавіта сказаў малады паўвайсковец. — Памочнік каменданта і начальніка мінскага гарнізона. Таксама маю паўнамоцтвы ад Народнага сакратарыята Беларусі, які цяпер, пасля вашага ганебнага ўцёку, выйшаў з падполля і бярэ ўладу ў свае рукі...

— Нас не цікавіць, з якой нары ты вылез і што ты за таракан! — перапыніў яго Мяснікоў. — Давай паравоз ці паставім зараз да сцяны!

Гэты Аўторак самалюбна і з нянавісцю бліснуў бялкамі вялікіх вачэй, пагардліва змераў позіркам невысокага Мяснікова з галавы да ног і даволі стрымана працадзіў праз зубы:

— Я — баявы афіцэр, праліваў кроў на фронце. Па-другое, прадстаўляю законны орган тутэйшай улады. Па-трэцяе, парламенцёр. Дык я рашуча пратэстую супраць хамства, — і, ужо задыхаючыся, ад злосці: — І супраць парушэння ўсіх адпаведных у такіх умовах правілаў...

— Што вы ад нас хочаце? — без выбачэння, але міралюбна запытаў Калмановіч. Чуючы спакойны голас старшыні Саўнаркома, успыльчывы Мяснікоў, закусіўшы ніжнюю губіну, адышоўся ў кут пакоя, пачаў невідушча пазіраць у цёмнае акно.

— Мае калегі — члены новага чыгуначнага камітэта, — вытрымліваў дыпламатычны этыкет, пагардліва ахоўваў усе адпаведныя працэдуры гэты настырны Адась Аўторак. — Спадар Лазаковіч, — кіўнуў на інтэлігентнага худога мужчыну ў паліто і капелюшы, — ад беларускіх служачых. Пан Збыхальскі, — хітнуў на таксама худога, але трохі маладзейшага мужчыну ў ватоўцы і ботах, — ад польскіх рабочых-бежанцаў. Мы, трое, упаўнаважаны ўручыць вам ультыматум: калі вы хочаце выбрацца адгэтуль жывыя і здаровыя, то павінны вярнуць сто тысяч. Тут ява. Нам.

Расшпіліў гузік на шынялі, прасунуў пад яго руку і дастаў невялікі канверт. Падаў Калмановічу.

— Мы вам ужо ўсё сказалі на гэты конт, — не беручы канверта, прамовіў той. — А слоў сваіх, як ведаеце, мы на вецер не кідаем.

— Тады мы мусім спыніць перамовы, — з выклікам сказаў Аўторак, паклаў на стол свой канверт, казырнуў і па-страявому павярнуўся. За ім моўчкі падаліся і цывільныя.

— Ну, такую тваю! — вылаяўся Мяснікоў. — Дарэмна мы цацкаліся дагэтуль з імі, не выкаслілі як след!

— Што будзем рабіць, таварышы? — запытаў Ландар. — Можа, кінем ім адчапное?

— Ні ў якім разе! — заявіў Мяснікоў.— Мы самі не толькі ўмацуем іх, але і зробім у абывацельскіх вачах героямі!

— Але ж і затрымлівацца небяспечна, — паразважаў уголас Ландар. — Увойдзе ў горад Доўбар-Мусніцкі — абкружыць і асадзіць. Не возьме сам, дык датрымае да прыходу немцаў.

І тут, нібы па нейкай дамове, пачуліся далёкія вінтовачныя стрэлы — спачатку хлёсткія, адзінокія, а пасля ўсё часцейшыя і бязладныя. Мусіць, хтосьці страляў у запале і апантанасці. Вось нават захлебістай кулямёт. Ландар падняў вочы на свайго камеданта — той моўчкі шпарка падаўся на двор. Адтуль нечакана засвістала блізкая станцыйная вадакачка. Неўзабаве ёй у адказ з гнятлівым выццём абзыўнулася некалькі паравозных гудкоў.

— Тэрмінова трэба здабыць паравоз, — задумліва прамовіў Ландар.— Любымі сродкамі.

— Выйсце бачу адно, — рашуча сказаў Мяснікоў. — Яны — нам ультыматум, а мы — ім!

— Які — наш? — запытаў Ландар.

— Навесці гарматы, кулямёты з браневіка на горад і, калі неададуць паравоза, адкрыць агонь!

— Ты добра ўсвядомліваеш, што раіш? — усклікнуў уражаны такою думкаю Ландар.

— А што параіш ты? Аддаць казну і прыехаць у Смаленск з голымі рукамі? Сустракайце: мы — абласны ўрад, але толькі без капейкі!

Усе змаўчалі, абдумваючы тое, што сказаў Мяснікоў.

— Іншага рэальнага выйсця я не бачу...

Вярнуўся камендант Савета, адразу з парога сыпнуў навіною:

— Ужо на Петраградскай сутыкнуліся беларускія і польскія нацыяналісты. Адны і другія спрабуюць да ўварвання Доўбар-Мусніцкага авалодаць Мінскам. Неўзабаве, таварышы, яны могуць атакаваць і станцыю, наш цягнік. Я ўзмацніў ачапленне, загадаў паставіць на гарышчы станцыі кулямёт, але... У іх, адчуваецца, таксама шмат зброі...

— Дачакаемся! Даперамаўляемся! — прыстрашыў Мяснікоў.

— Не, таварышы, абстрэл горада— гэта самая крайняя мера, — сказаў Ландар. — Агнём мы разбурым не толькі Мінск — найперш веру ў нас.

— А яны нас не пашкадуюць!

— І ўсё ж трэба дабівацца свайго мірным шляхам, — прамовіў Ландар і падаўся да выратавальнага тэлефона.

Але не паспеў падняць трубкі — зноў заявіліся тыя трое з чыгуначнага камітэта.

— Мы вылучаем новыя ўмовы, — казырнуўшы, сказаў знаёмы ўжо Адась Аўторак. — Народны сакратарыят больш дакладна падлічыў, колькі вы за сто дзён свайго панавання вінныя народу. Каля трыста тысяч. Аддасцё цяпер жа — праз паўгадзіны будзеце мець новенькі паравоз, — а пасля знарочыста прыстрашыў: — Перасцерагаю: наша разведка дакладае, што мінскія ўскраі ўжо займае конніца Доўбар-Мусніцкага...

— А пяцьсот тысяч не хочаце? — ускіпеў Мяснікоў. — Ці мільён?

— Глядзіце самі, — нібы са спачуваннем, а на самай справе з пагрозаю зноў падаў голас паўвайсковец. — Больш мы сюды не прыйдзем, ушчуваць альбо прасіць не будзем. А паколькі мы з Доўбар-Мусніцкім саюзнікі, дык, можа, і ўжывем супраць вас зброю...

Акінуўшы ўсіх позіркам (ці не напужаліся?), Аўторак зрабіў працяглую псіхалагічную паўзу, а пасля, бачачы, што вялікага страху не нагнаў, зноў фарсіста казырнуў і, надаючы сам сабе годнасці, пакінуў станцыю.

— Проста на вачах нахабнеюць!— паматляў галавою Мяснікоў. — А мы цырымонімся...

— Што ж, кажаш праўду, — пахітаў галавою і Калмановіч. — Калі яны злучацца з рэгулярным польскім войскам, то гэта — ужо не жарты. — Павярнуўся да Мяснікова. — Што ж, перамовы спыняем. Рыхтуй, галоўнакамандуючы, апошнюю тут баявую аперацыю...

— Вось гэта па-дзелавому! — супакоіўся, нават узрадаваўся той і шустра падаўся да Вайсдорфа — начальніка аховы цягніка.

Ландар і Калмановіч замаўчалі. І адзін, і другі ўзбуджана, гнятліва захадзілі. Ландар церабіў сваю барodку, а Калмановіч прасунуў руку пад вопратку і мацаў грудзіну — там, дзе трывожна білася сэрца. А час між тым бег. Вось мінулася поўнач, пайшло на новы дзень.

Зазваніў тэлефон.

Трубку падняў найбольш блізкі да апарата Калмановіч — з падпухлымі ад бяссоння вачыма, але рэзкі, нервовы.

— Я — старшыня Народнага сакратарыята Беларусі, — пачуўся нібы знаёмы хрыплы голас, але на самай справе гэта гаварыў не парламенцёр, а хтосьці іншы. — Мы ставім вам апошні ультыматум: ці вы вяртаеце 500 тысяч, ці мы праз паўгадзіны пачынаем рашучы штурм станцыі і цягніка! Само па сабе зразумела, бой ёсць бой, жыццё ў ім нікому не гарантуецца...

— Чаму — пяцьсот тысяч? А можа, мільён? — паздзекаваўся Калмановіч.

— Мы ідзём на кампраміс. У вашых і сваіх інтарэсах.

— Ясна, — голас у Калмановіча пасталеў. — А цяпер слухайце наш першы і апошні ультыматум. Калі вы праз тыя ж паўгадзіны не падасцё нам спраўны паравоз, мы накрыем горад, вас ураганным агнём з гармат і кулямётаў!

— Варвары!

— Усё! — адчаканіў Калмановіч.— Заўважце час. Трыццаць хвілін вам на ўсё: і на роздум, і на ваша выратаванне.

Калмановіч рашуча паклаў трубку. Ён першы, а за ім і ўсе астатнія выйшлі на перон — тут пачынала ўжо рассейвацца начная цемрадзь і на ўсходзе пульсаваў, набухаў світанак. Цяў мароз, хрумстка рыпеў пад нагамі бела-шэры, сям-там з бліскучымі іскрынкамі снег.

Яны не пайшлі да платформы з браневіком, дзе цяпер мітусіліся байцы, ведаючы, што вайскоўцы на чале з Вайсдорфам і Мяснікоўым зробяць тое, што трэба, як след. Ландар разумеў: абстрэл Мінска — мусовая крайнасць, але ўсё роўна душой супраціўляўся гэтаму: пабурацца не толькі старажытныя будынкі, але і загіне шмат невінаватых людзей. Маўчаў. Заўважыў: усхваляваны і Калмановіч — раз за разам зыркае на свой гадзіннік і спрабуе ўбачыць, колькі ўжо хвілін прайшло з моманту адліку ультыматума.

— Няўжо не пашкадуюць свой горад, сваіх людзей? — ціха запытаў.

Вось апошнія салдаты схаваліся ў браневіку — у наваколлі стала ціхаціха, аж вусцішна. Як і перад сапраўдным боем.

Ад платформы з браневіком адараўся і подбегам пачаў набліжацца сюды чалавек. Мяснікоў. Запыніўшыся, сказаў задыхана:

— Усё. Мы гатовыя.

— Праз дваццаць хвілін можна пачынаць... — ціха прамовіў Калмановіч.

Мяснікоў нічога не адказаў, зноў подбегам пашыбаваў — да платформы.

І тут у напружанай цішыні выразна пачуўся далёкі паравозны гудок, а неўзабаве данеслася ўжо і шпаркае чухканне. Праз хвіліну-другую станцыю асвяціў далёкі пук святла.

— Збаяліся-такі! — усцешыўся Калмановіч.

Як хутка ўбачылі, прыйшло аж два паравозы. Да іх накіраваліся гуртам: Мяснікоў, начальнік аховы Вайсдорф, Ландар і Калмановіч.

— Само па сабе зразумела, залпы адмяняем, — ужо пры пыхлівым паравозе крыкнуў на вуха Калмановічу Мяснікоў. — Калі маем два паравозы, то, лічу, адзін з нашымі людзьмі трэба паслаць наперад і праверыць мост цераз Свіслач.

— Давай, — махнуў са згодаю рукою Калмановіч. І Ландару, з палёгкаю ўздыхнуўшы: — Хадзем у свой вагон. Хоць прысядзем, а то зусім памлелі ўжо ногі.

Як бачылі, праз некалькі хвілін па камандзе Вайсдорфа трое байцоў узабраліся ў кабіну машыніста першага паравоза і загадалі таму вымaнеўраваць і ехаць да Свіслачы, а другі паравоз у гэты час таксама пачаў манеўраваць, каб стаць наперадзе іхніх вагонаў.

Даволі хутка паравоз, што быў у разведцы вярнуўся — усё, як сказалі, было добра, дык яго, як і другі паравоз, пачалі прычэпліваць да вагонаў.

Ландар увесь гэты час стаяў каля свайго тамбура, хочучы на свае вочы бачыць, што і як робіцца. Хоць салдаты падганялі чыгуначнікаў, і ўсё рабілася без лішняй затрымкі, але ўсё роўна час бег шпарка, а яны ніяк не маглі скрануцца з месца.

Нарэшце свіснуў паравозны гудок. Раз-другі.

— По вагонам! — пачулася гучная каманда Вайсдорфа.

Са станцыі, а таксама і з-за яе пабеглі сюды салдаты з ачаплення. Але не паспелі яны ўсе ўціснуцца ў вагоны, як ужо сюды, на перон, узбеглі цывільныя людзі з вінтоўкамі — відаць, баявыя дружыны гэтага наваўленага Народнага сакратарыята. Праўда, яны не стралялі, не перашкаджалі садзіцца ў вагоны —канечне ж, іх ахаладжвалі наведзеныя на станцыю ствалы гармат і кулямётаў з платформы.

— Таварыш Ландар, — на падножку ўжо ўсчапіўся і Вайсдорф, — праходзьце, калі ласка, у вагон і станьце падалей ад акна. Чорт іх ведае, можа бабахнуць каторы...

Ён паслухмяна падаўся ў вагон — на самым пачатку яго стаяў Калмановіч і ўзіраўся ў акно. Цяпер адступіў, даў яму месца побач з сабою.

У вагоне было цёмна, але цёпла. Як адчуў Ландар, ад цяпла адразу ж запалымнелі шчокі.

Цягнік торгнуўся, заляскаў жалезам, нават нібы пакаціўся назад, а пасля затросся, крануўся і пачаў паціху набіраць ход, адкочвацца ад станцыі і горада, які яшчэ спаў і, канечне ж, не ведаў, што шумела-бурліла на вакзале.

Толькі ён хацеў не тое што сказаць, а падумаць з палёгкаю: «Усё, паехалі нарэшце!», як цягнік нечакана ні то рэзка затармазіў, ні то гвалтоўна тарганўся, тут жа гучна і адчайна засвістаў паравоз, пачуўся лязгат-трэск, і гэты вагон быццам хіснуўся, быццам нават прыпадняўся — і Ландара, і Калмановіча ды Вайсдорфа аж адкінула ад акна да сцяны купэ.

Цягнік спыніўся.

— Што такое, ёлкі-палкі? — абуральна вырвалася ў Вайсдорфа. Тут жа, займеўшы раўнавагу і абапіраючыся абедзвюма рукамі аб сцены, падаўся на выхад. Ландар — за ім. Калмановіч — услед.

Сышоўшы на расчышчаны ад снегу насып і зноў удыхаючы марозное паветра, Ландар убачыў: іхні вагон мала сказаць закалыхаўся, ён увогуле сышоў з рэек і небяспечна стаў на краі ўзбочыны. Наступны вагон пагрозліва нахіліўся, а вагон з кулямётчыкамі зусім перакуліўся.

— Падстроілі ўсё ж гады крушэнне... — вылаяўся Вайсдорф, прысеў, абгледзеў усё, а пасля падняўся і патлумачыў: — Падымаць вагоны, манеўрываць некалі, таварыш Калмановіч. З хвіліны на хвіліну можа быць і горшае... Раю: людзям з хваста цягніка выйсці, хутка перанесці ў ацалелыя вагоны кулямёты, тое-сёе з харчу і — гайда далей...

— Давайце, — суха адказаў старшыня Саўнаркома Заходняй вобласці.

Вайсдорф падаў каманду — чырвонаармейцы высыпалі з вагонаў і пачалі хуценька пераносіць зброю і скрынкі з харчам, пасля перакулілі нахіленыя вагоны і прычапілі хваставыя. Ландар з Калмановічам тупалі па ўзбочыне, мусіць, абодва аднолькава люта палымнеючы злосцю на станцыйных чыгуначнікаў і на верхаводаў з Народнага сакратарыята — канечне ж, якраз тыя падбухторылі ўчыніць гэтую аварыю.

Падышоў Мяснікоў.

— Можа, смалянём па станцыі на развітанне? — запытаў. — Падзякуем як след за такія праводзіны?

— Не, — коратка кінуў Калмановіч. — Будзем вышэй злачынства і асабістай крыўды...

Праз паўгадзіны, калі пачало ўжо світаць, яснецца наваколле, цягнік зноў крануўся, пакінуў Мінск і хутка паімчаў на Смаленск.

## Анкета «ЛіМа»

# ГОД СЁЛЕТНІ І ГОД НАСТУПНЫ

### Святлана АЛЕКСІЕВІЧ



Азіраючыся назад, усё, што зроблена, убачана, перажыта, уяўляецца ўжо зусім у іншым святле.

Выйшлі ў свет пад адной вокладкай у выдавецтве «Советский писатель» абедзве мае кнігі: «У вайны не жаночы твар» і «Апошнія сведкі». Для мяне гэта ў нейкім сэнсе вынік працы апошніх гадоў.

З таго, што лічу галоўным, я б яшчэ назвала працу над першым фільмам цыкла, прысвечанага самым трагічным старонкам нашай гісторыі — гадам, якія я б назвала гадамі «сталінскага сацыялізму». У гэтым фільме мы стараемся зразумець драму таго часу, энергію таго часу.

Зараз многія гавораць: маўляў, колькі ўжо можна пісаць пра Сталіна, пра катаў і ахвяры. Лічу, трэба пісаць аб гэтым столькі, колькі патрабуецца, каб адчуць сябе свабоднымі людзьмі ў свабоднай краіне.

Самае моцнае ўражанне — гэта, вядома, паездка ў Афганістан. Сама не буду чы на вайне, я напісала пра яе дзве кнігі. І раптам — ваенны самалёт, чужыя горы, нашы параненыя салдаты, пяцігадовы афганскі хлопчык, які лашчыць вуснамі кімсьці падоранае плюшавае мядзведзяня, бо абедзвюх рук у яго няма— адарваны асколкам артылерыйскага снарада, труны, што паляцяць у Саюз, слёзы афганскіх матак, боязь сваёй асабістай смерці, пах натруджанага смяротнага металу і пах чалавечай крыві, што запяклася на сонцы...

Цяжка быць шчаслівым чалавекам, займеўшы такую памяць. Каб пазбавіцца гэтага, адно выйсце — працаваць.

### Алесь ПІСЬМЯНКОЎ



Гады, як і людзі, розныя. Адны больш шчаслівыя, другія менш. Адны больш плённыя, другія не дужа. Я б не сказаў, што гэты год для мяне быў багаты на плён: пісаў я мала, друкаваўся яшчэ менш. Гэты год для сябе я хутчэй бы назваў **годам асэнсавання**. Асэнсавання гісторыі, часу, сябе. Было што чытаць, было над чым і пра што думаць. А гэта таксама праца творчы. Асабліва сёння, калі мы як бы ў другі раз праходзім універсітэт, у якім многія дысцыпліны чытаюцца больш праўдзіва і больш аб'ектыўна, калі ў грамадстве адбываецца пераацэнка каштоўнасцей, многія з якіх аказаліся фальшывымі. Усё гэта прымушае не толькі думаць, але і шмат што мяняць у сабе і ў сваіх адносінах да шмат якіх з'яў. Я не веру людзям, якія лічаць, што ім мяняць нічога не трэба, што ў іх усё ідэальна. Усе мы дзеці свайго часу.

Як і большасць маіх равеснікаў, я з нецярпеннем чакаў XIX партканферэнцыі. Глядзеў, слухаў, чытаў, спадзяваўся. Веры і веру ў далейшую дэмакратызацыю і гуманізацыю грамадства. Праўда, калі быць шчырым, эйфарыю збілі падзеі, што адбыліся 30 кастрычніка ля Маскоўскіх могілак, якія яшчэ раз пацвердзілі старую ісціну, што на ўсё трэба глядзець цвяроза: новае нараджаецца толькі ў барацьбе са старым.

І яшчэ. У гэтым годзе ў мяне нарадзіўся другі сын. Яго нараджэнне супала з выхадам маёй другой кнігі. У гэтым бачыцца добры знак.

просьбаў няма. Мы патрабуем!» Некаторыя з патрабаванняў былі выкананы. А вартаўніку, які пабіў Каросаса, вязні аб'явілі байкот, і той, уявіце сабе, не вытрымаў агульнай пагарды і праз нейкі час быў пераведзены ў іншую турму, далей ад Вільні.

Вось так салідарнасць і партыйная дысцыпліна перамагалі часам адладжаны карны апарат.

●

З асаблівым пачуццём успамінае Іван Васільевіч гады, праведзеныя ў Маскве. У 1928 годзе па рашэнні сакратарыята ЦК КПЗБ ён з братам Міхалам і яшчэ адным таварышам па партыі перайшоў граніцу панскай Польшчы. Некаторы час Малец вучыўся на апошнім курсе рабфака пры Горацкай сельгасакадэміі, а ў 1929 годзе ЦК накіроўвае братоў у Маскву, у Камуністычны універсітэт нацыянальных меншасцяў Захаду. Неўзабаве Іван узначаліў камсамольскую арганізацыю універсітэта, у якім налічвалася 14 факультэтаў. Камсамольцы універсітэта шэфствавалі над афіцэрскай школай ВЦВКа, і камсоргаў нярэдка запрашалі ў Крэмль. Там адбываліся незабыўныя сустрэчы. Іван Малец і яго сябры сустракаліся з Н. К. Крупскай, Л. А. Фоціевай, А. Д. Стасавай, В. П. Лепяшынскай, з захапленнем слухалі іх расказы пра Уладзіміра Ільіча, былі сведкамі выступленняў наркома асветы А. В. Луначарскага, наркома аховы здароўя М. А. Сямашкі, дзеячаў міжнароднага камуністычнага руху К. Цэткін, В. Піка, В. Ульбрыхта.

У чырвонай зале МГК сябрам-студэнтам давядзецца слухаць Маякоўскага.

— Мы не разумелі і не любілі яго паэзіі, — з усмешкай успамінае Іван Васільевіч, — але яго выступленне, манера трымацца, моц голасу, абаянне асобы зачаравалі нас. І ўсё ж мы вырашылі пасля яго выступлення пайсці і прынцылова, па-камсамольску сказаць паэту, што рабочыя яго вершаў не разумеюць і не прымаюць. Уладзімір Уладзіміравіч, з усмешкай выслухаўшы нас, прапанаваў тут жа паехаць разам з ім на завод, каб мы пабачылі, як прымаюць яго рабочыя. Тым не менш мы стаялі на сваім: яго паэзія незразумелая, чужая для народа. Уладзімір Уладзіміравіч, здаецца, пакрыўдзіўся на нас. Цяпер пра тую недарэчную сустрэчу ўспамінаць і смешна, і сорамна...

Надараліся сустрэчы зусім з іншымі людзьмі. З Вышынскім, напрыклад, даводзілася Івану Васільевічу сядзець разам у прэзідыуме. Тагачасныя слухачы камуністычнага універсітэта бачылі ў Вышынскім, безумоўна, не таго вылюдка, якім той быў на самай справе і пра злачынствы якога мы цяпер ведаем, а бліскучага аратара, высока эрудзіраванага акадэміка права з інтэлігентным аблічам.

Доўга заставацца ў Савецкай Расіі ў Івана Васільевіча магчымасці не было. Не змог ён скончыць і універсітэт. «Таварыш Змітро» — такі ў яго быў партыйны псеўданім — зноў адпраўляецца ў Заходнюю Беларусь.

У час III канферэнцыі камсамола Заходняй Беларусі Малец быў выбраны членам сакратарыята ЦК, а потым першым сакратаром ЦК. Працуе на камсамольскай і партыйнай рабоце ў Беластоку, Гродне, у Вільні. Пасля арышту і турмы жыве ў Лодзі. Увесь час цягнула з'ездзіць дамоў, да бацькоў, якіх даўно не бачыў. На радзіме ён быў зноў арыштаваны дэфензівай — на гэты раз па даносу здрадніка, былога члена КПЗБ. Надышоў 1939 год. Многія таварышы Івана Мальца па партыі, вызваліўшыся з польскіх турмаў, адправіліся ў казематы НКУС або ў Сібір. Івану Васільевічу пашчасціла, ён не быў рэпрэсіраваны.

●

Вялікая Айчынная вайна застала Івана Васільевіча ў яго родных Мольнічах, дзе ён узначальваў калгас. Летам 41-га ён ідзе добраахвотнікам у армію. У верасні Малец запісваецца ў лыжны батальён, становіцца рэдактарам батальённай газеты. З нецярплівасцю чакае адпраўкі на фронт. Аднак лёс Івана Васільевіча і лёс тысяч яго землякоў вырашыў таварыш Сталін: загадам старшыні Дзяржаўнага Камітэта Абароны ўсе былыя жыхары Заходняй Беларусі і Украіны, а таксама Прыбалтыкі маглі накіроўвацца толькі ў рабочыя батальёны.

Іван Васільевіч не мог змірыцца з тым, што ён застанецца не на пярэднім краі. Пісаў рапарт за рапартам. За яго хадайнічалі камсамольская і партыйная арганізацыі палка, нават інспектар ПУРСЧА браўся дапамагчы — так яго ўразіла страснае жаданне Мальца біцца з фашыстамі, а галоўнае — перакананасць у сваім праве і абавязку служыць народу. Іван Васільевіч піша заяву ў ЦК ВКП (б). Але дайшла яна, як потым даведаўся Малец, толькі да начальніка Палітупраўлення Мехліса. Настойлівасць радавога байца магла яму падацца падазронай...

Як бы то ні было, Малец застаецца ў рабочым батальёне. У гэтых батальёнах служылі потым таксама салдаты, якія вырваліся з нямецкага палону і прайшлі зневажальную праверку ў спецлагерах. Нябачнае кляймо недаверу ляжала на іх да канца вайны, ды і пасля...

Тут, у рабочым батальёне, пройдуць для Івана Васільевіча яго ваенныя гады, тут ён будзе выбраны старшынёй рабочага камітэта, тут сустрэне сваю будучую жонку...

●

З Іванам Васільевічам мы гутарым у яго доме, у вёсцы Вялікія Навасёлкі, што за некалькі кіламетраў ад Дзяржынска. Жыве ён тут даўно, больш за дваццаць гадоў, жыве ўдваіх з жонкай. Дзеці — тры дачкі — дарослыя ўжо, працуюць у Мінску, гадуюць дзяцей. Ёсць у Івана Васільевіча ўжо і праўнук. Дзесяць гадоў, як ён на пенсіі. А да таго — настаўнічаў у мясцовай школе.

Сядзім з Іванам Васільевічам за сталом, перабіраем здымкі, дакументы, кнігі з артыкуламі пра «таварыша Змітра». У доме і за вокнамі зусім ціха, так што нішто не перашкаджае гутарцы. І толькі час ад часу размову перапыняе тэлефон: то Івана Васільевіча просяць абавязкова быць на партыйным сходзе, то скардзяцца на нейкую несправядлівасць, просяць парады. Адчуваецца — Іван Васільевіч, яго слова, яго вопыт патрэбны людзям. І ён гэта адчувае, ганарыцца гэтым. З задавальненнем гаворыць, як часта яму яшчэ даводзіцца выступаць, асабліва перад моладдзю.

І раптам:

— А ведаеце, усё тое, пра што мы гаворым, пра што ўспамінаем, маладым, відаць, не патрэбна. Гісторыяй мала хто з іх цікавіцца.

Гаворыць гэта Іван Васільевіч спакойна як пра нешта сумнае, але даўно вядомае і зразумелае. І я не ведаю, што адказаць. Што сказаць чалавеку, які пражыў доўгае і складанае жыццё, поўнае ўдач і памылак, расчараванняў і ўзлётаў? Мы не суддзі старэйшым пакаленням. Мы можам толькі паспрабаваць зразумець іх. Зразумець, што кожнае жыццё, кожны лёс — непаўторны і унікальны.

І таму я кажу на развітанне толькі адно:

— Добрага здароўя вам, Іван Васільевіч! Добрага здароўя!

●

Іван Васільевіч Малец зноў уступіў у партыю ў 1946 годзе. Пасля XX з'езда аднаўлены і яго партыйны стаж — з 1927 года.

**Віталь ТАРАС.**



# Памяць жыве

Я нарадзіўся і доўгі час жыў на Гродзеншчыне ў вёсцы Кунцаўшчына, што недалёка ад вёскі Балічы, радзімы А. В. Баліцкага, аднаго з відных дзеячаў культуры рэспублікі, які 30 кастрычніка 1937 года быў расстраляны, як вораг народа. Добра ведаў яго родных і знаёмых. Хочацца сказаць, што і з маёй вёсачкі Кунцаўшчына, у якой налічвалася 18 двароў, трынаццаць чалавек загінула ў перыяд культу асобы Сталіна.

Прапаную ўвазе чытачоў «ЛіМа» допіс, прысвечаны памяці выдатнага палітычнага і дзяржаўнага дзеяча Антона Васільевіча Баліцкага. З вялікай радасцю даведаўся, што Бюро ЦК КПБ прыняло рашэнне сярод іншых дзеячаў пасмяротна аднавіць у радах КПСС і яго.

Мне ўдалося пазнаёміцца з сястрой жонкі А. В. Баліцкага Зояй Паўлаўнай Завадскай, якая жыве зараз у Мінску. Яна ўспамінала: «Я ведала Антона Васільевіча Баліцкага як палымянага рэвалюцыянера яшчэ да 1917 года. Ён быў афіцэрам 300-га палка, які некаторы час дыслацыраваўся ў г. Бендэрах, дзе мы жылі. У кастрычніку 1917 года Антон Васільевіч быў пасланы ў камандзіроўку ад палка ў Петраград і аказаўся ўдзельнікам штурму Зімняга. Памятаю, як ён, прыехаўшы з Петраграда, пра ўсё гэта нам расказваў. Антон Васільевіч у час штурму быў нават паранены шабляй. У той час ён праводзіў вялікую агітацыйную работу сярод насельніцтва, выступаў з дакладамі, чытаў лекцыі. Пасля яго полк перавялі ў Адэсу, дзе ў мединстытуце вучылася мая сястра Тамара. Тут яны пазнаёміліся і ажаніліся. Сустрэлася я з імі зноў толькі ў 1920 годзе у г. Вазнясенску. Антон Васільевіч Баліцкі ўзначальваў там «Нарасветы». Нягледзячы на пасляваенную разруху, усе школы тут працавалі бесперабойна, дзеці атрымлівалі гарачыя абеды, настаўнікі пайкі, зарплату. Антон Васільевіч у сяле Ак-Мечэць адкрыў сельскагаспадарчы тэхнікум. Я пазней з ім працавала выкладчыкам біялогіі. Як кіраўніка яго ўсе паважалі і любілі...».

У 1921 годзе яго як беларуса па тэлеграме Леніна адазвалі ў г. Мінск, успамінае З. В. Завадская, і прызначылі намеснікам народнага Камісара асветы БССР. Антон Васільевіч быў цесна звязаны з пісьменнікамі Беларусі, асабліва ў блізкіх адносінах быў з Янкам Купалам, Міхасём Чаротам, Цішкам Гартным. Яны часта бывалі ў яго доме, чыталі свае творы, раіліся. А. Баліцкі быў таксама вялікім прыхільнікам выяўленчага мастацтва, драматургіі і музыкі. У яго кватэры збіраліся артысты, спевакі. У іх доме праслухоўваліся новыя творы беларускіх кампазітараў, у прыватнасці творы тады яшчэ маладога кампазітара Аладава...

У пачатку 1922 года ў Мінску быў заснаваны Інстытут Беларускай Культуры (Інбелкульт). З 1922 года па 1924 год гэты інстытут праводзіў вялікую навукова-даследчую і культурную работу. 4 лістапада 1924 года на 3-й сесіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Антон Васільевіч Баліцкі выступіў з дакладам, у якім даў высокую ацэнку рабоце Інбелкульта і ўнёс прапанову аб рэарганізацыі яго ў Акадэмію навук БССР.

На чале аб'яднанай секцыі беларускай мовы і літаратуры ў Інстытуце Беларускай Культуры стаяў прэзідыум, старшынёй якога доўгі час быў А. В. Баліцкі. Пад яго кіраўніцтвам секцыя беларускай мовы і літаратуры правяла значную работу па падрыхтоўцы акадэмічных выданняў твораў беларускіх пісьменнікаў.

Лёс сям'і Баліцкіх трагічны. Антон Васільевіч быў арыштаваны і расстраляны. Даведаўшыся пра гэта, раптоўна памерла яго жонка Тамара Паўлаўна, пакінуўшы шасцімесячнага сына. Сын Баліцкага — Антон Антонавіч Баліцкі — прайшоў усю вайну, дайшоў да Берліна. Пасля перамогі над фашысцкай Германіяй ён застаўся ў войсках Савецкай Арміі. Скончыў ваенную акадэмію ў Кіеве. Зараз у званні падпалкоўніка.

На радзіме Антона Васільевіча Баліцкага з яго родзічаў нікога няма. Ад хаты захаваўся адзін падмурак. Памёр апошні яго пляменнік — Пракоп Аляксандравіч Баліцкі. Але памяць аб А. В. Баліцкім сярод яго землякоў жыве. У музеі Лашанскай сямігадовай школы імя Я. Ф. Карскага і ў музеі Луцкаўлянскай сярэдняй школы экспануюцца яго фатаграфіі, матэрыялы аб слаўным сыне Беларусі.

**А. ЦЫХУН,**
**заслужаны настаўнік БССР.**

**ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

# Служэнне Радзіме

**На Усходніх могілках у Мінску на адным з надмагільных помнікаў выбіты лаканічныя радкі: «Матрос Кастрычніцкай рэвалюцыі». Крыху ніжэй: «Прэзідэнт Акадэміі навук БССР». Тут пахаваны вядомы савецкі вучоны Васіль Феафілавіч Купрэвіч, імя якога ведаюць далёка за межамі роднай яму Беларусі.**

**Пра слаўны шлях, пройдзены былым матросам, які сустрэў Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю на мінаносцы «Самсон», прымаў удзел у штурме Зімняга, расказвае Уладзімір Ліпскі ў дакументальнай аповесці «Урокі Купрэвіча», выпушчанай выдавецтвам «Беларусь» у серыі «Нашы славутыя землякі».**

**Аўтар аповесці вылучае дзевяць своеасаблівых урокаў героя, якія, калі падагульніць іх, выстройваюцца ў сістэму: «Ёсць запавет і ёсць урокі жыцця Купрэвіча. Яны сцвярджаюць мо найгалоўнейшы наказ акадэміка-біёлага, што праца, стваральная, творчая праца чалавека, і ёсць... надзейны ген актыўнага даўгалецця».**

**Дарэчы, В. Купрэвіч быў адным з першых, хто зацікавіўся праблемамі даўгалецця. Гэта па яго ініцыятыве ў Акадэміі навук БССР стварылі сектар геранталогіі, дзякуючы яго падтрымцы пачалі праводзіцца шматлікія даследаванні. Праўда, усё гэта было ў апошнія гады жыцця Васіля Феафілавіча. Кніжка ж пачынаецца з таго моманту, калі В. Купрэвіча толькі што выбралі прэзідэнтам Акадэміі навук рэспублікі (гэта быў пачатак студзеня 1952 года), калі ў жыццёвай і даследчыцкай біяграфіі вучонага пачаўся новы, самы важны віток. Віток, які стаў магчымым дзякуючы папярэднім, настойліва і напружана пражытым гадам.**

**У. Ліпскі, выкарыстоўваючы ўражанні ад сустрэчы з людзьмі, што добра ведалі вучонага, расказы яго блізкіх, успаміны самога В. Купрэвіча, стварае прывабны воблік чалавека, які рос і сталеў разам з роднай яму Беларуссю. Арганічна ўваходзіць у плынь аповесці імправізаваны дзённік В. Купрэвіча. У юнацтве ён сапраўды вёў марскі дзённік, занатоўваў у ім уражанні перадрэвалюцыйных і рэвалюцыйных гадоў. Але дзённік той не захаваўся. На падставе згадак многіх людзей, архіўных запісаў пісьменнік сам стварае «дзённік Купрэвіча». Гэты мастацкі прыём яму ўдаецца: уражанне такое, быццам сам В. Купрэвіч спавядаецца аб пражытых гадах, вяршыць своеасаблівы маральны суд над сабою.**

**У аповесці дзве сюжэтныя лініі. Першая звязана з ужо згаданым выбраннем В. Купрэвіча прэзідэнтам Акадэміі навук, другая — рэтраспектыўнага плана. Гаворыцца пра маленства вучонага, яго любоў да раслiннага і жывёльнага свету, працу настаўнікам, а потым пра першыя крокі на даследчыцкай ніве. Не абыходзяцца ўвагай і гады вайны, праведзеныя ў блакадным Ленінградзе. Менавіта ў гэты час В. Купрэвіч стаў камуністам, абараніў доктарскую дысертацыю.**

**Сімвалічна гучыць эпізод, звязаны, як мы сёння гаворым, з адлiжнымі гадамі. Вярнуўся ў Мінск рэпрэсіраваны ў трыццатыя гады М. Ганчарык. Першая іхняя сустрэча адбылася ці то ў 1929-ым, ці то ў 1930 годзе. Тады М. Ганчарык загадваў кафедрай батанікі Інстытута біялогіі Акадэміі навук БССР, звярнуў увагу на часопісныя публікацыі вясковага настаўніка прыродазнаўства В. Купрэвіча, падтрымаў, абнадзеіў... Цяпер, праз шмат гадоў, ужо В. Купрэвіч запрашае М. Ганчарыка ў тагачасную Акадэмію сельскагаспадарчых навук. Не без уплыву В. Купрэвіча вырашыўся і лёс вядомага вучонага М. Томіна, які таксама нямала зведаў у сваім жыцці.**

**Паказваючы В. Купрэвіча чалавекам далёка неардынарным, У. Ліпскі адначасова праводзіць думку аб тым, што ў яго лёсе былі самым цесным чынам паяднаны лепшыя чалавечыя і грамадзянскія якасці. Сумленнасць, шчырасць суседнічалі з прынцыповасцю, адкрытасцю і строгасцю, калі справа тычылася навукі. Так паступіў В. Купрэвіч і тады, калі даведаўся, што Інстытут біялогіі пляцецца ў хвасце навуковых даследаванняў. Тады ж і было прынята рашэнне прэзідыума Акадэміі навук БССР аб вызваленні М. Дарожкіна ад выканання абавязкаў дырэктара, «які не забяспечыў кіраўніцтва інстытутам».**

**Галоўным жа ў жыцці В. Купрэвіча было тое, што ён «перш за ўсё шукаў станоўчае, радаваўся любой знаходцы, умеў сказаць добрае суцяшальнае і абнадзейваючае слова». А яшчэ — умеў глядзець наперад. Гады прэзідэнцтва В. Купрэвіча — паскоранае развіццё беларускай навукі. Былі адкрыты ў Акадэміі навук БССР інстытуты фізікі, матэматыкі, ядзернай энергетыкі, цепла- і масаабмену, генетыкі і цыталогіі і іншыя, адбылося шэраг важных навуковых адкрыццяў, у тым ліку і на сусветным узроўні.**

**«Урокі Купрэвіча» — кніга, якая прымушае не толькі задумацца над лёсам яе галоўнага героя, нашага выдатнага сучасніка. Адначасова яна абуджае і іншыя думкі. У. Ліпскім зроблены адзін з першых крокаў па напісанні мастацкай біяграфіі вучонага. А колькі ж у нашай рэспубліцы людзей, якія варты такой увагі і пашаны — скажам, той жа М. Ганчарык, М. Улашчык, нядаўна пайшоўшы з жыцця Г. Гарэцкі?!**

**Адным словам, першы крок зроблены.**

**А. КУНЦЭВІЧ.**

*Выстаўкі*

# Віцебскі «Квадрат»— Казіміру Малевічу

У зале віцебскай арганізацыі Саюза мастакоў працавала выстаўка членаў творчага аб'яднання «Квадрат», на якой, акрамя работ удзельнікаў аб'яднання, экспанаваліся матэрыялы аб таварыстве «УНОВИС» («Утвердители нового искусства») —галоўным плёне жыцця К. Малевіча. Экспазіцыя, хоць і крыху перагружаная, вызначалася вялікім густам і пашанай да Настаўніка, які працаваў у Віцебску з 1919 па 1922 год. Гледача сустракаў вялікі белы крыж, у сарцавіне якога — чорны квадрат. Пад ім—вядомы «Аўтапартрэт» К. Малевіча 1927 г. Побач—«супрэматычны букет» з чорных і чырвоных рэек. У афармленні скарыстаны цытаты з тэарэтычных прац Малевіча. Далей—галоўная частка экспазіцыі, якая апавядае пра УНОВИС, пра яго ўдзельнікаў у Віцебску (Валянціна Ермалаева, Ільля Чашнік, Леў Юдзін, Ілья Суэцін, Мікалай Коган, Леанід Лісіцкі). Усхваляваная гаворка аб дзёрзкіх людзях, якія рызыкавалі зазірнуць у невядомае. Амаль усім ім была загатавана сталінская пайка лёсу. В. Ермалаева, напрыклад, загінула без ежы і вады на адным з астравоў Аральскага мора.

Аднак жа гаворка не пра іх асабісты трагічны лёс. Галоўнае—іх творчасць, справа. На жаль, гэта галоўнае і закрыта ад нас пакуль паўвекавой тоўшчай невядомасці, і тое, што зрабілі ўдзельнікі УНОВИСА, сёння мы ведаем толькі ў «шкілетным» выглядзе, хаця яны паспелі стварыць тэорыю куды больш развітую і дасканалую.

Супрэматызм — нараджэнне навуковага і перш за ўсё тэхнічнага прагрэсу на пачатку нашага стагоддзя. Ужо каня адпрэглі ад самахода, але аўтамабіль па-ранейшаму нагадваў карэту. Фабрыкі па-ранейшаму нагадвалі палацавыя і храмавыя будынкі. Трэба было выйсці на новыя прынцыпы формастварэння, каб ісці па шляху прагрэсу далей. К. Малевіч апярэдзіў свой час. Да ягоных форматворчых прынцыпаў звярнуліся ў нашай краіне праз некалькі дзесяцігоддзяў, калі спатрэбілася даць дах мільёнам. Тады ўзнікла тэхналогія модульнага будаўніцтва. Дом, паводле слоў Карбюзье, стаў «машынай для жылля».

Па сутнасці, ад абстрактна-дынамічных кампазіцый К. Малевіча і В. Кандзінскага, іх паплечнікаў пачынаецца сучасны дызайн з яго модульнай камбінаторыкай.

Сёння разам з ухваленнем К. Малевіча як выдатнага мастака мы бачым і гістарычную абмежаванасць супрэматызму. Справа, канечне ж, не ў тым, што мастацкая спадчына К. Малевіча «не зразумелая» недасведчаным; гэта час паправіць. Справа ў тым, што ў супрэматызме чалавек з яго ўнутраным светам зводзіцца на ўзровень дэталі індустрыяльнай цывілізацыі. Але тэхнакратычны кірунак вядзе ў тупік. Не чалавек для машыны, а машына для чалавека. Чалавек у прыродзе не дэспатычны тыран, а разумны нашчадак спадчыны, якую стварылі яму прырода і грамадства.

Крокам у асэнсаванне супрэматызму ў новай якасці і стала выстаўка творчага аб'яднання віцебскіх мастакоў «Квадрат». У Малевіча яны ўзялі дух пошуку, эксперыменту, творчай неўтаймаванасці. Аддаючы даніну «высакароднай здані» свайго папярэдніка і настаўніка, члены «Квадрата» накіроўваюць свае намаганні на пошук уласных аксіём формаўтварэння. Першы і пакуль самы значны вынік іх дзейнасці—гэта адраджэнне той творчай атмасферы, якой горад быў слаўны ў першыя дзесяцігоддзі веку. Дух Віцебска 20-х вітае ў іх майстэрнях. Што ж датычыць рэальных знаходак—карціна пакуль што, на мой погляд, больш сціплая.

Да мастакоў «Квадрата» можна прад'явіць патрабаванні па вялікім рахунку мастацтва. І таму скажу адразу: галоўны твор выстаўкі—гэта сама выстаўка, на якой няма твораў раўнадушных. Але ж у мастацкіх адносінах амаль ва ўсіх адчуваецца нейкая недастатковасць, сэнсавая недагружанасць, прытым, што ёсць творы цікавыя. Напрыклад, «Жаночы торс» работы А. Малея, лірычнае «Прысвячэнне К. Малевічу» В. Шылко. Ці ўзяць хоць бы арыгінальны па задуме твор А. Слепава «Дэфармацыя асобы». Або «Азбука хлусні» А. Дасужава, «Аналіз дзеяння» В. Шчаснага. І ўсё ж пры гэтых поспехах не пакідае ўражанне, што мастакі спяшаюцца, што іх творчасць пакуль нагадвае занадта бурны рост гідрапанічных агуркоў, быццам усё ёсць—і колер, і форма, і пах, але няма толькі канцэнтрацыі вітамінаў, якую няспешна копяць агуркі на градцы.

Канечне ж, не аб «спадабаецца—не спадабаецца» трэба весці гаворку на выстаўцы. Галоўным у творчасці К. Малевіча і яго паплечнікаў быў пошук не асобнага самавыяўлення, а новай візуальнай мовы. Ці ўспрынялі разам з назвай члены «Квадрата» гэты пафас пошуку? Пакуль цяжка сцвярджаць, што ўдзельнікі «Квадрата» свядома ставяць сабе такую задачу. Падобна на тое, што яны пакуль толькі актыўна адмовіліся ад састарэлай выяўленчай мовы і чыста інтуітыўна рухаюцца ў розныя бакі. Сама па сабе такая адданасць справе выклікае павагу. Але ж і сведчыць аб стыхійнасці руху. Здаецца, што «Квадрат» выстаўкай, прысвечанай К. Малевічу, павінен скончыць этап стыхійнага развіцця і выйсці на шлях мэтанакіраванага, усвядомленага эксперыменту. Дзеля гэтага ў землякоў Малевіча цяпер ёсць усё: статус творчага аб'яднання, арганізаванасць, назапашанае майстэрства і вельмі таленавіты лідэр—Аляксандр Малей, прозвішча якога па дзіўным супадзенні вельмі сугучна прозвішчу Казіміра Малевіча.

Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ.



А. СЛЕПАЎ. «Захавальнікі музы».



А. МАЛЕЙ. «Сонечнае зацьменне».



В. ШЫЛКО. «Прысвячэнне Казіміру Малевічу».




**З 2 ПА 8 СТУДЗЕНЯ**

**2 студзеня, 23.20**
**ВЯЧЭРНІ КАНЦЭРТ**

Выступае дзяржаўны ансамбль танца Латвійскай ССР «Дайле».

**3 студзеня, 21.50**
**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма расказвае аб падзвіжніках беларускай культуры.

**6 студзеня, 19.30**
**«МАЯ ТЫ РОДНАЯ ЗЯМЛІЦА»**

Мікола Засім. Старонкі жыцця і творчасці.

**7 студзеня, 13.20**
**«МЕТРАНОМ»**

Музычнае таварыства: надзеі і трывогі.

**7 студзеня, 16.10**
**«ЭКРАН: ПРАБЛЕМЫ, ГЕРОІ»**

Адбудзецца знаёмства з новымі стужкамі эстонскага «Тэлефільма».

**7 студзеня, 17.55**

Творчы вечар народнага артыста СССР І. Лучанка.

У ім выступяць салісты Дзяржаўнага канцэртнага аркестра БССР Я. Паплаўская, І. Афанасьева, А. Ціхановіч, вакальна-інструментальныя ансамблі «Сябры», «Песняры», І. Кабзон, В. Талкунова, Т. Гвардцытэлі і іншыя.

**7 студзеня, 23.05**
**ВЯЧЭРНІ КАНЦЭРТ**

Прэм'ера ансамбля народнай музыкі «Жывіца» Беларускага тэлебачання і радыё пад кіраўніцтвам заслужанай артысткі рэспублікі В. Пархоменкі.

**8 студзеня, 13.05**
**«ТЭАТР І ЧАС»**

Дэмакратызацыя грамадства, рух краіны да прававой дзяржавы, стан нацыянальнай культуры і праблемы міжнацыянальных адносін — па ўсіх гэтых пытаннях выказваюць сваю пазіцыю акцёры-купалаўцы.

У перадачы прымаюць удзел В. Манаеў, Г. Давыдзька, М. Кірычэнка, А. Уладамірскі, Ю. Авяр'янаў.

Вядучы — кандыдат мастацтвазнаўства В. Ракіцкі.

**8 студзеня, 18.40**
**«РОЗДУМ»**

Перадача знаёміць з творчасцю аднаго з першых мастацтвазнаўцаў рэспублікі М. Шчакаціхіна.

Вядучы — мастацтвазнаўца У. Бойка.

**8 студзеня, 23.05**
**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 08275

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.